PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 17 (2241) Год XLIV Беласток 25 красавіка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Нашаніўская алімпіяда

Аляксей Мароз

Цэнтральныя элімінацыі V Алімпіяды беларускай мовы адбыліся 2 красавіка 1999 года ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Традыцыйна ўжо ў час апошняга этапу вучні пісалі сачыненні і адказвалі на пытанні па беларускай літаратуры, а веды і ўмеласці правярала камісія, якую састаўлялі Аляксандр Баршчэўскі (старшыня), Валянціна Бабулевіч, Васіль Сакоўскі і Баляслаў Хмяліньскі. 16 удзельнікаў, якія апынуліся ў заключным этапе свае сачыненні пісалі на адну з дзвюх тэмаў, якія тычыліся нашаніўскага перыяду.

1. Роля „Нашай нівы" ў асвятленні беларускіх нацыянальных і сацыяльных пытанняў.

2. Янка Купала як вядучы беларускі паэт перыяду „Нашай нівы".

Большай папулярнасцю карысталася першая тэма, бо ажно 12 вучняў рашылася пісаць на ёй працы, а толькі 4 выбралі другую.

— Працы былі ў гэтым годзе вельмі добра напісаны. Усе вучні прама выказвалі свае думкі, многія рабілі цікавыя аналізы і спасылаліся на інфармацыі з Беласточчыны, якія паяўляліся ў „Нашай ніве", — кажа Валянціна Бабулевіч. — Відаць было добрую падрыхтоўку ўдзельнікаў. Калі здараліся памылкі, дык былі гэта найчасцей непазбежныя ў нашай моладзі паланізмы, але здараліся і працы амаль беспамылковыя.

Пасля ўсе ўдзельнікі адказвалі на пытанні па літаратуры.

— На кожным білеце было адно пытанне. Найчасцей тычыліся яны нашаніўскага перыяду, а вольных тэмаў на гэты раз не было ўвогуле. Трэба было расказваць пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алаізу Пашкевіч. Разглядалі мы і аналізавалі іх творчасць, паасобныя творы параўноўвалі з польскай літаратурай. Аналізавала я „Новую зямлю" Я. Коласа і параўноўвала яе з „Панам Тадэвушам" Адама Міцкевіча, — кажа Іаанна Сноп з III класа Бельскага белліцэя, якая ў фінальных змаганнях апынулася на II месцы. — Я таксама, як і Аня Найбук (I месца) з Гайнаўскага белліцэя беларускай мове не вучылася ў падставовай школе, таму моцна хвалявалася.

Тэму пісьмовых прац і пытанняў прадказвалі ранейшыя інфармацыі Галоўнага камітэта алімпіяды, што ў гэтым годзе ўдзельнікі павінны звяртаць увагу на нашаніўскі перыяд. У сувязі з 90-й гадавінай выхаду з друку зборніка Янкі Купалы „Дудка" пытанні датычылі грамадскіх і нацыянальных адметнасцей у беларускай літаратуры XIX і XX стагоддзяў. З падборкі матэрыялу

[працяг ☞ 3]



„Тарнада" падымаецца з вайсковай базы ў Італіі з разведачнай місіяй у Сербію.
Agencja Fotograficzna PAP

# Свята ў цяні югаслаўскай драмы

Яўген Міранові́ч

Вайна ў Югаславіі ўзбударажыла праваслаўнае грамадства Беласточчыны. Ад часу ўзнікнення „Салідарнасці" ніводная тэма так не хвалявала людзей як удары НАТО па Сербіі. Пры святочных сталах у праваслаўных дамах на Беласточчыне пра палітыку гаварылася як ніколі раней. Прытым амаль не было тут ніякіх спрэчак. Праваслаўны люд згодна дэманстраваў сваю салідарнасць з сербамі. Польскіх палітыкаў і журналістаў, каментуючых падзеі на Балканах, акрэслівалася тут выключна як служак Амерыкі. Найбольшае расчараванне выклікае пазіцыя СЛД, любімай арганізацыі беларусаў Беласточчыны. Падчас сеймавай дыскусіі на тэму замежнай палітыкі Польшчы, якая вялася ў Вялікую пятніцу, посткамуністы рашуча падтрымалі атаку амерыканцаў і іх васалаў на Сербію, а некаторыя з іх, напрыклад прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі, прадэманстравалі больш энтузіязму для акцыі амерыканцаў чым прэм'ер-міністр Ежы Бузэк ці міністр замежных спраў Браніслаў Герэмэк. Аказваецца, што шмат людзей арыентуецца, хто і аб чым гаварыў у сейме. Сяляне заўважылі нават, што раней дзеячы БГКТ Ян Сычэўскі і Сяргей Плева, паслы ад левых дэмакратаў, галасавалі за ўваход Польшчы ў НАТО. Можа гэта выклікаць здзіўленне асабліва таму, што ніводзін з іх гэтым не хваліўся.

Югаслаўская вайна закранае таксама царкоўнае асяроддзе. Шмат глыбокаверуючых людзей задумваецца ці праваслаўныя капеланы — генералы і палкоўнікі — у арміі НАТО сваёй прысутнасцю не падтрымліваюць антысербскі лагер. Малітва „за власть и воинство" гучыць сёння для некаторых праваслаўных беларусаў Беласточчны неяк дзіўна.

Яшчэ ніколі ў так рашучым тоне як цяпер не гаварылася пра прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку. Яго антызаходняя рыторыка знаходзіць цалкавітае апраўданне ў вачах беластоцкіх беларусаў. Няма лепшай ілюстрацыі для пацвярджэння слоў Лукашэнкі як пажары ў Бялградзе. Невядома як успрымаецца югаслаўская вайна грамадствам Беларусі, таму што рэжымныя сродкі масавай інфармацыі здаўна аб нічым не інфармуюць, а апазіцыйная прэса як бы дапасавалася да формы прапаганды накінутай уладамі і асвятляе рэчаіснасць таксама, толькі ў адваротным варыянце. Тое, што ў лукашыстаў называецца станоўчым, у апазіцыянераў яно адмоўнае, і наадварот. Немагчыма таксама зарыентавацца аб настроях у Беларусі з польскіх сродкаў масавай інфармацыі, а прыклад прапаганды ў справе югаслаўскай вайны паказвае, што на ніякае сумленнае інфармаванне ва ўмовах глабальнай канфрантацыі разлічваць няма сэнсу. Дастаткова ўзяць у рукі пару нумароў найбольш уплывовай польскай штодзёнкі „Gazety Wyborczej" з апошняга тыдня, каб пераканацца, што свабода слова і праўда гэта дзве зусім розныя справы.

8 красавіка па першай праграме Польскага радыё прагучала інфармацыя, што турэцкая армія правяла акцыю супраць курдаў, у выніку якой загінула 88 курдскіх партызанаў. І гэта ўсё. Нідзе больш не з'явілася гэтая ін-

[працяг ☞ 4]

## Ruscy won

Святкаванню праваслаўнага Вялікадня ў Беластоку спадарожнічала серыя антырускіх надпісаў на мурах і агароджах цэркваў. На трэці дзень свята ў лозунг „Ruscy won" віднеў на агароджы сабора св. Мікалая. Некалькі крокаў далей, на публічнай прыбіральні, што ля царквы, размаляваны такі ж самы надпіс.

[болей ☞ 3]

## Беларускі першадрукар затужыў па Кракаве

У Архідыяцэзіяльным архіве ў Кракаве знайшоў я зусім новую крыніцу, якая ў пэўнай ступені разбурае біяграфію Францыска Скарыны. Звычайна ў распрацоўках пішацца, што паступіў ён на вучобу ў Кракаўскі універсітэт у 1504 г. Гэта, аднак, не стопрацэнтная праўда, паколькі наш палачанін стаў студэнтам напрыканцы зімовага семестра, значыць, фактычна быў гэта пачатак 1505 г.

[шырэй ☞ 5]

## З прытупам па свеце

Танцам Джэймса Дывайна можна было ў апошні час захапляцца і ў Польшчы. Прыехаў ён да нас з калектывам *Gaelforce Dance* і на працягу амаль усяго красавіка выступаў у розных гарадах краіны. Турнэ пачалося 9 красавіка ў спартыўнай зале клуба Влукняж у Беластоку — там, дзе апошнімі гадамі канчаюцца фестывалі беларускай песні — і пакацілася праз іншыя гарады.

[канцэрт ☞ 5]

## Сведку ў нос!

Сцяпан Бэзоўскі быў і бачыў. Як біў Багуміл Рус сваю сужыцельку. Як яе катаваў фізічна і маральна. Не вельмі хацеў быць сведкам у судзе, але ў паліцыйных пратаколах выступаў як неаднаразовы сведак затрымання таго хулігана, які пасля задушыў матку свайго дзіцяці.

[крымінал ☞ 8]

## Цудадзейная ікона ў Вульцы-Выганоўскай

У міжваенны перыяд прыхаджане аддалі ікону на рэстаўрацыю ў Вільню. Назад вярнулася яна на чыгуначную станцыю ў Рыгароўцах, дзе сустрэлі яе вернікі і з хрэсным ходам занеслі святыню ў царкву ў Вульцы. Па дарозе прыхаджане рассцілалі дываны, кідалі кветкі, прасілі заступніцтва і блаславенства.

[нарыс ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Фармаванне камісій

У той час, як Цэнтральная выбарчая камісія па справе выбараў прэзідэнта фармуе ўчастковыя камісіі, афіцыйныя ўлады ўзмацняюць ціск на рэгіянальных сяброў выбарчых камісій. Акрамя гэтага ўлады імкнуцца інкрымінаваць старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктару Ганчару новы артыкул крымінальнага кодэкса — „Захоп улады пры дапамозе змовы". У сувязі з гэтым сябры выбарчых камісій выклікаюцца на допыты.

— Выклікі сяброў тэрытарыяльных камісій на допыт у КДБ і пракуратуру носяць па ўсёй Беларусі масавы характар, — заявіў прэсавы сакратар ЦВК Аляксандар Коктыш. — Апошнімі днямі на допыт выклікаліся: старшыня камісіі горада Хоцімска Іван Верабей — яму вынесена папярэджанне, сябра камісіі з Крычава Жарабінава — яна атрымала штраф у 500 тысяч рублёў, у Бабруйску на допыты выклікалася гарадская камісія ў поўным складзе. У Мінску позву з'явіцца на допыт атрымаў сябра Ленінскай раённай выбарчай камісіі Мікалай Галаўнёў.

Сакратар ЦВК Барыс Гюнтар лічыць, што ўлады сканцэнтравалі рэпрэсіўныя захады супраць сяброў выбарчых камісій менавіта ў беларускай правінцыі. Барыс Гюнтар звязаў масавыя факты выклікаў на допыт сяброў выбарчай камісіі з тым, што афіцыйныя ўлады імкнуцца перакваліфікаваць абвінавачванне супраць старшыні ЦВК Ганчара са 190 артыкула крымінальнага кодэкса („Прысваенне службовых паўнамоцтваў") на артыкул 161 („Захоп улады пры дапамозе змовы"), бо абвінавачанне ў прысваенні службовых паўнамоцтваў пакуль рассыпаецца.

Сакратар Цэнтральнай выбарчай камісіі Барыс Гюнтар заявіў:

— Сёння ўлады шукаюць факт змовы сярод сяброў камісій, якія нібыта хочуць гвалтоўна знішчыць цяперашнюю ўладу шляхам змовы. Справа ў тым, што гэта не атрымаецца таму, што ЦВК працуе адкрыта, не хаваючыся, не хаваючы сваіх сяброў, не хаваючы сяброў рэгіянальных камісій. Самае цікавае, што ў прынцыпе, наколькі я ведаю, ніводзін сябра камісіі пакуль не зламаўся. Ніводзін сябра камісіі не напісаў адмовы ад удзелу ў камісіі. Яны працягваюць працаваць у тым кірунку, як загадана Вярхоўным Саветам XIII склікання.

Паводле сп. Гюнтара, цяпер актыўна ідзе фармаванне ўчастковых камісій, якое, як плануецца, будзе завершанае напрыканцы красавіка.

**Юрась Карманаў**, Мінск
*Радыё Свабода, 12.04.1999 г.*
*(http://www.rferl.org/bd/be/belarus)*

## Святочная акцыя

**Віцебскія прыхільнікі дэмакратыі ўвечары 25 сакавіка правялі святочную акцыю па адзначэнні чарговых угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

А 17 гадзіне са сквера на вуліцы Кірава пачалося шэсце апазіцыі. Калона дэманстрантаў з бел-чырвона-белымі сцягамі, флагам Еўрапейскага Саюза ды сімволікай Беларускага народнага фронту прайшла па вуліцах старой часткі горада. Падчас руху дэмакраты віншавалі віцяблянаў з каталіцкім святам Дабравешчання ды 81-й гадавінай утварэння БНР. Гучнае „Жыве Беларусь!" разносілася па наваколлі. Ля помніка славутаму Уладзіміру Караткевічу адбыўся традыцыйны мітынг. Нешматлікія прамовы былі кароткімі. Прадстаўнікі БНФ, мясцовых сацыял-дэмакратаў, „Маладога фронту" ды некаторых іншых арганізацый адзначылі ролю 25 сакавіка 1918 года ў гісторыі Беларусі ды зноў павіншавалі гараджан з Днём волі. Крытыка ўладаў амаль не чулася. Ніхто не ўзгадаў і пра будучыя выбары прэзідэнта краіны.

Пасля выступаў пачаўся гістарычны конкурс. Найбольш актыўнай была моладзь, якая паказала выдатныя веды па нацыянальнай гісторыі. Пераможца атрымаў скрыню піва.

Затым мітынгоўцы спрабавалі злазіць, так бы мовіць, мастацкую частку імпрэзы. Але яна атрымалася досыць няроўнай і хутка закончылася.

У акцыі ўдзельнічала да ста чалавек. У мінулыя гады ў Віцебску такія мерапрыемствы прыцягвалі значна больш удзельнікаў. Сёлета арганізатары вырашылі правесці святкаванні ў працоўны дзень і таму сабралася няшмат людзей.

**Юрась Сцяпанаў**
**НРІА „Контур-INFO"**

## Беларусам прапаноўваюць яшчэ аднаго „брата"

Магчыма, што ўжо ў першай палове мая будзе падпісаны дагавор пра стварэнне аб'яднанай беларуска-расійскай дзяржавы. Для гэтага з Масквы і Мінска ў Гродна 10-11 мая збіраюцца прыехаць члены беларускай „палаты прадстаўнікоў", якіх Лукашэнка ў 1996 годзе прызначыў дэпутатамі і іх калегі з расійскай Думы. За некалькі тыдняў да гэтага жаданне далучыць сваю краіну да новага Саюза выказаў прэзідэнт Югаславіі Слабадан Мілошавіч.

14 красавіка адбыўся нечаканы візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Бялград. Слабадан Мілошавіч уручыў беларускаму прэзідэнту афіцыйны ліст, у якім выказваецца жаданне далучыцца да Саюза Беларусі і Расіі. Лукашэнка ўспрыняў гэта вельмі станоўча. Ён некалькі разоў падкрэсліў, што Мілошавіч гэта яго асабісты сябра. Абодва кіраўнікі дзяржаў абдымаліся і цалаваліся перад тэлекамерамі і рабілі выгляд, што адбываецца надзвычайная падзея.

Аднак, якім чынам і з якой мэтай будуць аб'ядноўвацца тры абсалютна розныя краіны пакуль ніхто не ведае.

**Зміцер Кісель**

## Сола Лукашэнкі пад ваенны аркестр

**Цэнтральным здарэннем пачатку гэтага тыдня (12-18 красавіка — рэд.) стаў візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Бялград. Сам Лукашэнка, здаецца, дабіўся падвойнага рэзультату. Па-першае, мяркуючы па ўсім, яго перагаворы з Мілошавічам аказаліся паспяховымі. Па-другое, паказаўся ён беларусам такім героем, які не баіцца паехаць у любую гарачую кропку.**

І напярэдадні адлёту, і ў час пабыўкі ў Бялградзе Аляксандр Лукашэнка ахвотна кантактаваўся з прэсай. У прыватнасці, ён выказваў спадзяванне, што яго візіт „хаця на міліметр" наблізіць канфліктную сітуацыю да развязкі. Беларускі прэзідэнт перакананы ў тым, што яго перагаворы з Мілошавічам — гэта праця пачатай Прымаковым справы. Лукашэнка асабліва падкрэсліваў, што ў апошнія дні ён штодня вёў тэлефонныя перагаворы з расійскім прэм'ер-міністрам. У той жа час беларускі прэзідэнт сказаў, што ён на ролю міратворца не прэтэндуе.

Цікава, што ў час сустрэч з журналістамі беларускі прэзідэнт так і не выявіў адкрыта свайго стаўлення да магчымасці далучэння Югаславіі да расійска-беларускага Саюза. Беларускі прэзідэнт, аднак, падкрэсліў, што прыехаў у Бялград не толькі як кіраўнік дзяржавы, але і як старшыня вышэйшага савета Саюза. Аб тым, што ў Лукашэнкі станоўчыя адносіны, сведчаць толькі ўскосныя доказы. Напрыклад, знешнепалітычнае ведамства распаўсюдзіла пасланне Мілошавіча беларускаму прэзідэнту, у якім гаварылася: „Дадзенае рашэнне мае гістарычнае значэнне для інтарэсаў славянскіх народаў, працэсаў іх інтэграцыі і міру ва ўсім свеце". У паведамленні МЗС таксама было сказана, што Мілошавіч выказаў удзячнасць за пазіцыю беларускага прэзідэнта. Прыгадаем, што напярэдадні сустрэчы са Слабаданам Мілошавічам беларускі лідэр заяўляў, што афіцыйных прапаноў ад сербскага лідэра ў справе далучэння Югаславіі да Саюза Расіі і Беларусі не было. Пад канец пабыўкі ў Бялградзе беларускі прэзідэнт ужо распараджаўся неабходным дакументам: ён заявіў журналістам аб тым, што Мілошавіч перадаў яму „працэсуальна афармленае пасланне" да прэзідэнтаў Расіі і Беларусі з просьбай аб уступленні Югаславіі ў Саюз. Тады было таксама аб'яўлена, што пытанне аб далучэнні Югаславіі да Саюза будзе разгледжана Барысам Ельцынам і Аляксандрам Лукашэнкам на бліжэйшым пасяджэнні вышэйшага савета Саюза. Зрэшты, на які дзень прэзідэнты Расіі і Беларусі назначылі сустрэчу, пакуль невядома. У прэс-службе МЗС паведамілі, што прыблізна яна адбудзецца ў другой палове красавіка.

Яшчэ адным рэзультатам візіту стала згода Югаславіі на допушчэнне ў краіну замежных назіральнікаў ААН. Гэты намер Сербіі на прэс-канферэнцыі ў Бялградзе рэтрансліраваў Аляксандр Лукашэнка. Беларускі прэзідэнт асабліва падкрэсліў, што Югаславія гатова допусціць на сваю тэрыторыю толькі цывільных назіральнікаў — у ніякім выпадку не вайсковых, не паўвайсковых, не паліцэйскіх. Апрача таго, па словах Лукашэнкі, Югаславія згодна на прысутнасць назіральнікаў з краін, якія не ўдзельнічалі ў бамбардзіроўках Югаславіі.

Як вядома, НАТО не рэкамендавала Аляксандру Лукашэнку ляцець у Югаславію. Тым не менш беларускі прэзідэнт настаяў на сваім і дабіўся ўступіць яму паветраны калідор. Дабіваўся не надарэмна: Мілошавіч наладзіў яму шыкарны прыём. Згодна паведамленню тэлекампаніі НТВ, такога прыёму не ўдастоіўся нават расійскі прэм'ер-міністр Яўгеній Прымакоў. І нават югаслаўскія журналісты не прыпамінаюць, каго яшчэ так добра прымаў Мілошавіч — з дывановай дарожкай і ваенным аркестрам. Напэўна беларускі прэзідэнт таксама не прыпамінае, хто яго так сустракаў. Паводле паведамлення НТВ, у гонар прыезду беларускага прэзідэнта ў Бялградзе былі прыняты дадатковыя меры бяспечнасці. У аэрапорце праваляліся нават машыны з дыпламатычнымі нумарамі.

Увесь дзень беларускае тэлебачанне расказвала аб тым, што пасля таго як пачаліся перагаворы Лукашэнкі і Мілошавіча, па Бялградзе быў нанесены ракетна-бомбавы ўдар. Сапраўды, у час перагавораў спачатку раздаўся дзіўны гук, потым завыла сірэна. Праўда, ужо днём расійскія тэлеканалы паведамілі, што ніякіх бамбардзіровак не было. Пад вечар высветлілася, што пралятаючы міма самалёт проста пераадолеў гукавы бар'ер. Але расказаў аб тым, як беларускі прэзідэнт пабываў на вайне, мы, праўдападобна, у бліжэйшы час пачуем многа...

**Вольга Тамашэўская**
*„Белорусская деловая газета" № 575, 16.04.1999 г.*

## Польскія імпрэзы ў Віцебску

Шмат што ў гэтым плане робіцца ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце (колішнім пединстытуце). Гэтаму спрыяюць даўнія сувязі з выкладчыкамі і студэнтамі Вышэйшай педагагічнай школы ў Зялёнай Гуры ды Універсітэта ў Беластоку. Адбываюцца сумесныя навуковыя доследы, ладзяцца тэматычныя выставы, з нядаўняга часу на філалагічным факультэце працуе факультатыў па вывучэнні польскай мовы.

Традыцыйнымі і шырока вядомымі ў навуковых колах сталі канферэнцыя філолагаў „Беларуска-руска-польскае мовазнаўства і літаратуразнаўства", міжнародныя чытанні, прысвечаныя творчасці Яна Баршчэўскага.

У лютым Польскі інстытут, што месціцца ў Мінску, арганізаваў выставу польскіх кніг у бібліятэцы дзяржуніверсітэта. Тут была таксама разгорнута дэманстрацыя работ польскага фотамайстра Міхала Браварскага. На трыццаці каляровых фотаздымках прадстаўляліся моманты калядавання ў розных рэгіёнах Польшчы.

Для жадаючых азнаёміцца з польскім кіно 90-х гадоў, лепш ведаць польскую мову і культуру Польскі інстытут наладзіў дэманстрацыю фільмаў вядучых кінарэжысёраў. 26 і 27 лютага ў кіназале галоўнага корпуса Віцебскага дзяржаўнага універсітэта былі паказаны карціны Ежы Штура „Гісторыя кахання", Юлюша Махульскага „Кілер", Кшыштафа Занусі „Галёп" і Яраслава Жамойды „Малады ваўкі".

У правядзенні гэтых мерапрыемстваў Польскаму інстытуту дапамагалі сябры мясцовага аддзялення Саюза палякаў Беларусі.

*„Бюлетэнь", № 3 (12), сакавік-красавік 1999 г.*

# Што зменіць закон?

У Сейме рыхтуецца закон аб нацыянальных меншасцях. Мае ён вырашыць справы нацменаў у Польшчы ў адпаведнасці з міжнародным заканадаўствам.

У законапраекце ёсць толькі адно сапраўды рэвалюцыйнае як на нашы ўмовы вырашэнне. Прадугледжвае яно, што на населенай нацыянальнай меншасцю тэрыторыі яе мова будзе дапаможнай у працы адміністрацыі. Як гэта будзе выглядаць на практыцы, цяжка цяпер сказаць. Частка чыноўнікаў і палітыкаў баіцца, што патрэбны будуць перакладчыкі для афармлення спраў на дапаможнай мове. Гэта, відаць, празмерная насцярожанасць чыноўнікаў і іх упэўненасць у непатрэбнасці такога новаўвядзення.

Дапаможная мова была б доказам належнай увагі да старых людзей, якія звычайна хацелі б афармляць справы на зразумелай ім мове. Будзе гэта таксама прыязны жэст у адносінах да тых маладых людзей, якія адкрываюць свае карані і без сораму ды боязі хацелі б публічна карыстацца „мовай сэрца", у дзяржаўных установах таксама.

Мяркую, што працэс увядзення ва ўжытак дапаможных моў будзе праводзіцца эвалюцыйным шляхам, без непатрэбных інцыдэнтаў і дэманстрацыйных эксцэсаў. Кантроль за гэтымі працэсамі павінен праводзіцца мясцовымі раднымі. Цяпер цяжка прадбачыць канчатковы кшталт закона, але праўдападобна рашэнню аб увядзенні дапаможнай мовы будзе спадарожнічаць сур'ёзная дыскусія або рэферэндум. Мабыць, адным з контраргументаў будзе тлумачэнне, што гмінам не пад сілу весці двухмоўную дакументацыю.

Перад законапраектам яшчэ марудная заканадаўчая дарога, паколькі не карыстаецца ён падтрымкай АВС і ПСЛ. Аднак трэба спадзявацца, што да ўступлення Польшчы ў Еўрапейскі Саюз усё ж такі будзе ён прыняты парламентам.

**Славамір Кулік**

# Ruscy won




Святкаванню праваслаўнага Вялікадня ў Беластоку спадарожнічала серыя антырускіх надпісаў на мурах і агароджах цэркваў. На трэці дзень святаў лозунг „Ruscy won" відне́ў на агароджы сабора св. Мікалая. Некалькі крокаў далей, на публічнай прыбіральні, што ля царквы, размаляваны такі ж самы надпіс. Два такія самыя надпісы паявіліся на новай агароджы праваслаўнага могільніка ў квартале Выгода. Якраз у трэці дзень Вялікадня на згаданым могільніку асвячаюцца магілы памерлых, як у праваднуюнядзелю. Пра згаданыя надпісы на чарговым храме — Святадухаўскай царкве, што па вуліцы Антанюкоўскай інфармавалі беластоцкае тэлебачанне і „Kurier Poranny".

Варта адзначыць, што сёлета, як ніколі раней на праваслаўных велікодных набажэнствах прысутнічала аграмадная колькасць вернікаў. Не памясціліся яны нават ў самой вялікай царкве ў Польшчы — Святадухаўскай. Тысячы прыхаджан маліліся вакол сваёй святыні.

— Zaczyna tu pachnieć Jugosławią, — каментавалі надпісы на могільніку на Выгодзе вернікі.

Усе лозунгі выкананы аранжавым шпрэем. Заметны таксама індывідуальны почырк. Выглядае на тое, што іх аўтар з'яўляецца нязздзейсненым ваяўніком, якому не пашанцавала паехаць у Югаславію.

**Г. К.**

*Фота Ганны Кандрацюк*

# Стратэгія і бюджэт

У Гайнаўцы 26 сакавіка г.г. адбылася сустрэча бурмістраў і войтаў з Управай рады Гайнаўскага павета, прысвечаная падрыхтоўцы стратэгіі развіцця паасобных гмін і ўсяго павета. 29 сакавіка радныя прынялі бюджэт павета на 1999 год.

У сувязі са спадзяванай дапамогай Еўрапейскага Саюза ў бягучым годзе будуць распрацоўвацца стратэгіі развіцця паасобных гмін, паветаў і ваяводстваў. Прадстаўнікі гмін распытвалі пра характар інвестыцый, на якія можна будзе атрымаць фінансавыя сродкі, цікавіліся спосабамі афармлення інвестыцыйных планаў. Вядома ўжо, што ў Падляшскім ваяводстве будуць чатыры рэгіёны, якія распрацуюць супольныя стратэгіі для гмін і паветаў. Прысутных цікавіў Бельскі рэгіён, які састаўляюць тры паветы: Гайнаўскі, Сямятыцкі і Бельскі. Неабходны ён для рэалізацыі міністэрскіх праектаў вартасцю за 5 мільёнаў злотых. Вядомым стала, што фінансавая дапамога галоўным чынам будзе накіравана на ахову асяроддзя і сельскую гаспадарку, а не на развіццё канкрэтнай прамысловасці, якая ў будучыні магла б стаць канкурэнтнай для заходніх прадпрыемстваў. Многія не першы раз выслухалі інфармацыю, што на ўсходняй сцяне найбольшая ў Польшчы смяротнасць, што адсюль уцякаюць маладыя людзі, што тут слаба развітая прамысловасць, але ўсё ж такі трэба распрацоўваць планы развіцця сваіх гмін і рэгіёнаў да 2010, а нават да 2020 года. Войтаў і бурмістраў найбольш аднак цікавілі рэальныя інвестыцыі ў павеце і сталі яны размяркоўваць сродкі на рамонты дарог у павеце.

З рэзультатамі дыскусіі можна было пазнаёміцца ў час бюджэтнай сесіі, якая адбылася 29 сакавіка г.г. На дарогі ў Гайнаўскім павеце радныя выдзелілі 1 мільён 130 тысяч злотых, якія пойдуць у асноўным на асфальтаванне вуліцы Ліповай у Гайнаўцы і дарог з Трывежы ў Ласінку, з Нараўкі праз Альхоўку ў Семяноўку, з Альхоўкі ў Масева, з Дубіч-Царкоўных у Тафілаўцы, з Карыціск у Істок, а таксама на дарогі ў Белавежы і Палічнай.

У павятовым бюджэце (22 мільёны 218 тысяч зл.), у якім 3% складаюць уласныя даходы, а ўсе апошнія — гэта субвенцыі і датацыі, 35,5% пойдзе на асвету і выхаванне, 26,6% прызначана на сацыяльнае забеспячэнне насельніцтва, на грамадскую апеку — 13%, а 9% на транспарт.

**(ам-з)**

# Нашаніўская алімпіяда

[1 ☞ працяг]

задаволены былі тыя вучні, якія сталі пераможцамі, а наракалі тыя, якім не ўдалося. Апошнія наракалі, што дастатковай была б адна тэма аб нашаніўскім перыядзе, а другая магла б даць магчымасць выказацца прыхільнікам іншых перыядаў беларускай літаратуры.

Калі расшыфраваны былі пісьмовыя працы і падведзены рэзультаты вусных адказаў высветлілася, што максімальную колькасць 60 балаў за пісьмовую працу атрымала Анна Найбук з Гайнаўскага белліцэя і ў выніку апынулася на 1 месцы (заваявала 98 балаў). Па 96 балаў атрымалі Іаанна Сноп з Бельскага і Анна Садоўская з Гайнаўскага белліцэяў. Трэцяе месца занялі Войцех Сегень з Гайнаўкі і Анэта Гуль з Бельска. У лік лаўрэатаў уключаны былі таксама Анэта Шумялюк з Бельска і Дыяна Дубко з Гайнаўкі, а ўсе іншыя ўдзельнікі цэнтральнага этапу атрымалі званне фіналіста, што звольніць іх з экзаменаў на атэстат сталасці па беларускай мове. Усіх лаўрэатаў без уступных экзаменаў па беларускай літаратуры і мове прымаць будуць аддзяленні беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Універсітэта ў Беластоку і Універсітэта ў Любліне. Вядома ўжо таксама, што будуць яны маглі без экзаменаў паступаць на іншыя напрамкі. Ужо зараз можна даведацца ў паасобных універсітэтах аб прывілеях для пераможцаў алімпіяды беларускай мовы.

**Аляксей Мароз**

# IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.

**Тэматыка**

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

**Прынцыпы ўдзельніцтва**

1. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ,

— II група: моладзь сярэдніх школ,

— III група: дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў двух катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, надрукаваныя на машынцы або разборліва рукапіс у трох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і пасласць на адрас:

**Redakcja „Niwy"**
**ul. Zamenhofa 27**
**15-959 Białystok**

з прыпіскай на канверце: IV Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такімі нумарам узроставай групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**Тэрміны**

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае 16 мая 1999 г. (вырашае дата паштовага штампа).

2. Конкурс завершыцца да 30 чэрвеня 1999 г.

3. Аб'яўленне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел. Прадугледжваецца таксама аўтарская сустрэча з лаўрэатамі.

**Узнагароды**

1. Арганізатары прыдбалі грашовыя і рэчавыя ўзнагароды. Дапускаюцца таксама ўсялякія іншыя ініцыятывы арганізацый і прыватных асоб з мэтай павелічэння колькасці ўзнагарод. Арганізатары будуць садзейнічаць такім ініцыятывам.

2. Арганізатары ўстанаўліваюць 1-3 узнагароды для найлепшых дэбютантаў. Аб падзеле і вартасці астатніх узнагарод рашае ўстаноўленае арганізатарамі журы.

3. Журы можа не выкарыстаць усяго фонду ўзнагарод.

4. Арганізатары прадугледжваюць магчымасць публікацыі ўзнагароджаных твораў (без права аўтараў на ганарары) на старонках „Нівы", у агульнапольскім друку і па радыё.

5. Як дадатковая ўзнагарода прадугледжваецца выданне асобнага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных цераз журы прац.

**Заключныя заўвагі**

1. Працы, якія не адпавядаюць правілам конкурсу, не будуць разглядацца.

2. У справах, якія вынікаюць з супярэчлівага тлумачэння правілаў, канчатковае рашэнне выносяць арганізатары ў паразуменні з журы.

3. Сакратарыят конкурсу змяшчаецца ў:

Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok 2
skr. poczt. 149
tel. 743 50 22

Тут можна атрымаць дэталёвую інфармацыю.

Запрашаем прыняць удзел у конкурсе і жадаем поспехаў.

**Арганізатары**

 

# Пакаянне як трэба

Беластоцкая ваявода Крыстына Лукашук (не адно толькі яна) вядомая ў нас галоўным чынам тым, што яна ігнаруе існаванне нацыянальных меншасцяў, а калі ўжо і з мусу зауважыць іх існаванне, тады дзейнічае так, каб хаця чаго добрага ім не атрымалася; прыкладам справа ўшанавання памяці пабітых „патрыётамі" вазакоў. Яе паводзіны нагадваюць паводзіны ўлад Другой Рэчы Паспалітай, у якой гэта дзяржаве меншасці лічыліся лішнімі, значыць нявартымі дзейнасці ў іх карысць, такое як адукаванне іх і найманне на дзяржаўную працу.

У 1946 годзе прэзідэнт Іосіп Броз-Ціта прызнаў пражываючым у межах Югаславіі албанцам аўтаномію, спярша перамогшы іх, а пасля стварaючы аўтаномны раён у Косаве. Ціта быў харватам і, магчыма як і адзін з выдатнейшых славянафілаў каталіцкі архібіскуп Іосіп Штросмаер, мроіў пра згоднае сужыццё паўднёвых славян у адной дзяржаве. Дзеля гэтай мэты не дапускаў ён у сваёй дзяржаве да нацыяналістычных вылазак, якія ў ранейшыя гады прынеслі там столькі няшчасцяў. Нам наогул добра вядомыя злачынствы, якіх дапусціліся харвацкія ўсташы падчас другой сусветнай вайны, але менш вядомыя падзеі, якія адбываліся ў Югаславіі раней. Пасля ўзнікнення 1 снежня 1918 года адзінай дзяржавы сербаў, харватаў і славенцаў уладу ў ёй захапілі на практыцы сербы і паводзілі сябе так, як сёння паводзяцца цяперашнія беластоцкія ўлады. Харваты і славенцы перасталі быць суб'ектамі палітычнага жыцця ў новай дзяржаве. Падчас адной са спрэчак у Скупшчыне былі застрэлены бадай тры харвацкія пасла, у 1934 годзе ў Марселі ўсташы застрэлілі югаслаўскага караля Аляксандра І Карагеоргія, а да апагея міжнацыянальнай нянавісці і бойні дайшло, як ужо згадвалася, у другую сусветную вайну, калі найбольшыя пакуты выпалі на долю сербаў. У дачыненні да косаўскіх албанцаў у міжваенны перыяд бялградскі ўрад праводзіў палітыку насільнага канфіскавання ім зямлі і выкідання з яе іх, закрываліся албанскія школы. У другую сусветную вайну Косава было далучана да Албаніі, якая была пад італьянскай акупацыяй. Пасля вайны Косава было вернута Югаславіі.

У 1980 годзе памёр аўтарытэтны і ў Югаславіі, і ва ўсім свеце Іосіп Ціта. Нейкі час пасля яго смерці пачалі вылазіць старыя югаслаўскія прывіды. У 1984 годзе на чале бялградскага камітэта Саюза камуністаў Югаславіі стае выпускнік юрыдычнага факультэта тамашняга універсітэта 43-гадовы Слабадан Мілошавіч. У 1986 годзе ўзначальвае ён ужо партыю ва ўсёй Сербіі, а ў 1989 годзе займае пост сербскага прэзідэнта. Яго бацька скончыў жыццё самагубствам у 1962 годзе, маці зрабіла тое ж у 1973 годзе, а сам Слабадан таксама праявіў сябе рашучым: пасля ўваходу на прэзідэнцкі пост скасаваў ён усе прызнакі албанскай аўтаноміі. Выклікала гэта занепакоенасць іншых суб'ектаў югаслаўскай федэрацыі і яны сталі абвяшчаць самастойнасць, што прыводзіла да супрацьдзеяння Мілошавіча і штораз больш жорсткіх і крывапралітнейшых войнаў, у выніку якіх асталося яму на сёння яшчэ Косава, у якім 90% насельніцтва складаюць албанцы. Іх становішча нагадвае даваенную сітуацыю не толькі іх саміх, але і, тадышнюю, нашу: няма навучання на роднай мове, няма і доступу на дзяржаўную працу. А сілавыя структуры дзяржавы, якую яны мусяць ўтрымоўваць, нясуць ім суцэльную акупацыю. Іх праблемы ўсё-ткі, як бачна ў тэлевізарах, куды больш акрашаны крывёю чым напрыклад наш павятовы з'езд Грамады ў Старым Беразове калісь або выбары членаў павятовай камісіі асветы цяпер.

Нашы тут сімпатыі, так прынамсі здагадваюся я, не на баку роднасна нам адораных доляй неславянскіх албанцаў, толькі на баку сербаў, бо апошнія — праваслаўныя. Хаця праводзяць яны ўзорную эндэцкую палітыку, яны эндэкі нашы, праваслаўныя!

Здараецца мне напісаць нешта канфесійнае не на каленях. За гэткі грэх „выспавядала" мяне аднойчы адна матушка. А напярэдадні мінулагодняга Вялікадня айцец Георгій у беластоцкім саборы ўвесь час прыглядаўся мне, маючы, відаць, надзею, што я прыйшоў не спавядацца, толькі выслухаць яго павучэнні. Сёлета схадзіў я паспавядацца у Магдалінінскую царкоўку, дзе айцец Аляксей адспавядаў мяне па-польску. Адчуваў я сябе, быццам спавядала мяне роўнаэндэцкая любімейшаму некаторымі славянамі Слабадану Мілошавічу *przesympatyczna pani Krysia*.

**Аляксандр Вярбіцкі**

Чытачы аб вайне НАТО з Югаславіяй

# „Гуманітарнае" злачынства

Сталася: дабрадзеі, жандар свету, натаўская банда заатакавала незалежную Югаславію-Сербію матывуючы, што сербы дыскрымінуюць, мучаць і забіваюць албанцаў з Косава, часткі Сербіі, якія хочуць незалежнасці і выхаду са складу Югаславіі. Каб напасці прычыны знойдуцца, бо і Гітлер распачынаючы другую сусветную вайну меў таксама свае матывы, а ў першую чаргу выкараніць са свету яўрэяў і бальшавізм. Але справа Сербіі выглядае трошкі інакш і цалкам не так, як тлумачаць заходнія ястрабы. Чаму НАТО напала на гэту краіну? Бо ўрад Мілошавіча цвёрда трымаецца сваіх прынцыпаў і поглядаў і не ўпаў на калені перад імперскім захадам, так як рэшта дэмакратычных краін, а хутчэй сацыялістычнай садружнасці, уключаючы „геройскую" Польшчу. А другое і самае галоўнае: сербы — гэта праваслаўны і славянскі народ, а праваслаўных славян люта ненавідзяць каталікі. А НАТО, як ядро, складаецца выключна з каталікаў і пратэстантаў. І каб сербы былі каталікамі і яшчэ фанатычнымі ці пратэстантамі і членамі НАТО, дык каб яны сапраўды рабілі тады найгоршыя і жудасныя злачынствы, ніхто іх, барані Божа, не чапаў бы! Яшчэ дапамагалі б у гэтай разні.

Цяпер Югаславія з'яўляецца для ЗША жывым палігонам, як калісь быў В'етнам. Пасля быў Ірак і хаця натаўская банда двойчы нападала на гэту краіну, пакарыць яе не ўдалося і іракская нафта не прыпала амерыканскаангліійскім капіталістам. Бо галоўнай прычынай нападу была нафта і непакорнасць Гусейна перад д'ябальскім захадам. Цяпер прыйшла чарга на „вызваленне" Косава ад сербскай „акупацыі". Аднак гісторыя рашуча пацвярджае, што Косава — гэта сербская тэрыторыя. Захад і Польшча маўчаць; правы албанскай меншасці былі і ёсць настолькі вялікія, што нам, беларусам у Польшчы, могуць толькі прысніцца. Пасля вайны албанцы мелі свае школы, універсітэты, газеты і маглі дасканала жыць у Югаславіі не ведаючы дзяржаўнай мовы. Але калі захацелі „незалежнасці" і сталі ствараць тэрарысцкія групоўкі-банды супраць законнага ўрада Сербіі, дык тая не асталася ў даўгу і дайшло да дракі. Каб і мы, беларусы, пачалі дамагацца незалежнасці і тварыць партызанку супраць Польшчы, дык тая з намі хутка справілася б так, як справілася з украінцамі ў 1947 годзе падчас акцыі „Вісла". Індзейцы, карэнныя жыхары Амерыкі, таксама жадалі вызвалення ад прыгнёту белага нашэсця, што распачалося з адкрыцця падарожнікам Калумбам гэтага мацерыка, і ўсякія спробы „адарвацца" і жыць незалежна ад каланізатараў тапіліся ў індзейскай крыві. А што „дабрадзеі" рабілі з неграмі, якіх лавілі ў джунглях Афрыкі і перавозілі як рабоў на сваю тэрыторыю? Гэта быў жах і дыскрымінацыя гэтай расы далей мае сваё месца ў „свабоднай" Амерыцы.

Але няхай ведаюць натаўскія „дабрадзеі", што краіну можна знішчыць, але народ — ніколі! Пасля гэтых бамбардзіровак Амерыку і цэлы захад сербскі народ яшчэ больш слушна зненавідзіць, так як паўночнакарэйскі народ Амерыку не хоча бачыць на вочы. А заходнім каршунам ідзе выключна пра тое, каб знішчыць славянскі і праваслаўны народ і веру ў Югаславіі. Не ўдасца! А чаму НАТО і Амерыка маўчаць, быццам вады ў рот набраўшы, як гэта туркі ў сваёй краіне здзекуюцца, мардуюць і паляць вёскі, і то пагалоўна, другую нацыю — курдаў, якія толькі хочуць аўтаноміі, больш нічога. Туркі кожны парыў курдаў топяць у іхняй крыві. І ўсё добра і нармальна ў вачах захаду; і на тага: ён дапамог туркам ухапіць курдскага правадыра Аджалана і пасадзіць у турэцкую катоўню-турму на востраве і гэтаму чалавеку пагражае смерць. Амерыка і НАТО не бачаць, што робіцца ў Турцыі з простай прычыны: бо гэта іх саюзнік і член НАТО, а крумкач крумкачу вока не выкале.

На бедную, галодную і дзікую Расію таксама няма чаго спадзявацца сербскаму народу, бо яна многа крычыць, а нічога не робіць, а толькі спадзявацца на свае сілы, дружнасць, адданасць, гонар і веру што вораг будзе аднак пасаромлены.

**Мікалай Панфілюк**

**Ад рэдакцыі**: меркаванні чытачоў аб югаслаўскай драме будзем друкаваць у наступных нумарах.

# Свята ў цяні югаслаўскай драмы

[**1** ☞ *працяг*]

фармацыя, ніхто не пракаментаваў падзей у турэцкім Курдыстане. Паводле агульнапрынятай схемы, НАТО змагаецца за правы чалавека і таму самалёты пакта кідаюць бомбы на гарады Сербіі, якой улады праследуюць албанцаў. Турцыя з'яўляецца членам НАТО і там правы чалавека, паводле прынятай дактрыны, не парушаюцца. Нейкія забітыя курды — а каго яны цікавяць! Не выпадае пісаць ці гаварыць пра саюзнікаў дрэнна, асабліва калі маўчыць у гэтай справе прапаганда „вялікага брата".

На Беласточчыне вельмі выразна відаць як югаслаўская вайна раскрыла тутэйшы цывілізацыйны падзел. Каталікі, як прыхільнікі НАТО, у большасці адабраюць бамбардзіроўку праваслаўнай Сербіі, праваслаўныя — наадварот, спачуваюць сербам і падтрымліваюць іх змаганне за незалежнасць. Весткі з Грэцыі паказваюць, што жыхары гэтай праваслаўнай краіны, якая з'яўляецца членам НАТО, таксама зусім інакш ставяцца да вайны супраць сербаў чым афіцыйныя ўлады. Украінскі парламент адназначна выказаўся за сербаў, прэзідэнт Кучма, які апынуўся ў падобнай залежнасці ад амерыканскіх банкаў як і Ельцын, паводзіць сябе вельмі памяркоўна.

Югаслаўскі канфлікт выклікае ва ўсходняй Еўропе вялікія эмоцыі. Праўдападобна паўплывае ён моцна на вынікі набліжаючыхся прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў у Расіі і ва Украіне, адтэрмінуе незалежнасць Беларусі, а лозунг „дэмакратыя і правы чалавека" для мільёнаў людзей на Усходзе стане асацыявацца больш з бамбардзіроўкамі чым нейкімі маральнымі рацыямі.

**Яўген Мірановіч**

Польшча — Беласток — 1999 г.
Передвелікодная сядміца

Да Урадаў Краін НАТО
праз пасрэдніцтва Дыпламатычных Прадстаўніцтваў

# Заява-пратэст

Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Польшча, якое прадстаўляе шматтысячную групу сваіх выбаршчыкаў, выказвае пратэст супраць мілітарнай эскалацыі ваенных дзеянняў краін-членаў Паўночнаатлантычнага пакта НАТО супраць сербскага народа, што пагражае сусветнаму міру.

Мы, нацыянальная меншасць, асабліва моцна адчуваем складанасць нацыянальных адносін і таму лічым, што кожная краіна мае права і абавязак абараняць цэласнасць сваёй тэрыторыі, затое пражываючыя там нацыянальныя меншасці павінны карыстацца неабмежаванай свабодай выказвання сваіх поглядаў і рэлігійных перакананняў, а таксама мець права развіваць традыцыю дзеля захавання нацыянальнай тоеснасці.

Заклікаем канфліктуючыя бакі, а перш за ўсё кіраўнічыя колы НАТО неадкладна спыніць ваенныя аперацыі і безагаворачна прыступіць да вырашэння канфлікту дыпламатычнымі метадамі.

Для міру няма альтэрнатывы.

Да ведама:
1. Галоўныя Улады Рэспублікі Польшча.
2. ААН, АБСЕ — пасольствы.
3. Друк, радыёвяшчанне, тэлебачанне.

*Старшыня Галоўнай рады БДА Пятро КРУК*
*Старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі БДА Віктар СТАХВЮК*
*Каардынатар Краёвай управы Пятро ЮШЧУК*



 

# З прытупам па свеце

**Колькі разоў у секунду можна ўдарыць нагой аб падлогу? Тры, чатыры? А два разы больш? Трэба неблагога спрытнюгі. Сусветны рэкорд, занесены ў кнігу Гінеса — 38 удараў! Дабіўся яго 23-гадовы аўстраліец Джэймс Дывайн. Ногі танцора застрахаваны на 2 мільёны долараў.**



Танцам Джэймса Дывайна можна было ў апошні час захапляцца і ў Польшчы. Прыехаў ён да нас з калектывам *Gaelforce Dance* і на працягу амаль усяго красавіка выступаў у розных гарадах краіны. Турнэ пачалося 9 красавіка ў спартыўнай зале клуба Влукняж у Беластоку — там, дзе апошнімі гадамі канчаюцца фестывалі беларускай песні — і пакацілася праз Варшаву, Кракаў, Катавіцы, Познань, Гданьск ды іншыя гарады.

Калектыў у Польшчу запрасіў апаратар сеткі сотавых тэлефонаў *Era GSM*, добра такі пастараўшыся пра рэкламу, як танцораў, так і свайго тавару. „Танец стыхій!" — крычалі ўжо прынамсі ад Новага года білборды на вуліцах гарадоў. „Суперспектакль, абапёрты на ірландскім фальклоры" — можна было прачытаць ледзь не ва ўсіх газетах. „Калектыў, які ведаюць ва ўсім свеце, ад Новай Зеландыі па Канаду!" — гучалі анонсы па радыё і тэлебачанні.

Журналістаў арганізатары запрасілі на спецыяльную прэзентацыю перад пачаткам турнэ ў студэнцкі клуб „Стадола" ў Варшаву. Прытым, прыемна паказыталі самалюбства працаўнікоў лакальных медыяў, не шкадуючы ні на гатэль (Марыёт), ні на вячэру — у той жа „Стадоле", разам з артыстамі.

Артысты аказаліся быць сімпатычнымі маладымі, больш-менш дваццацігадовымі людзьмі. Зграбна перабіралі нагамі і танцам паказалі універсальную гісторыю кахання, здрады, зайздрасці, складаных узаемаадносін двух братоў. У сэрцах герояў кіпелі страсці, паказаныя прытупам, жэстам, мімікай. Зліваліся яны ў адно з прыродай, якую імітавалі адпаведныя музыка і святло. Словам: па сцэне гулялі стыхіі!

„Gaelforce Dance", гэта, як паказвае ўжо сама назва, ірландскі танец. Падаецца ён гледачу, аднак, у арыгінальнай харэаграфіі, з дабаўкамі балету і сучасных танцаў. Прыемна глядзець сольныя партыі Джэймса Дывайна, Пола Нунана і Фіёны Мак Ілкены. Узровень астатніх членаў калектыву не благі, аднак больш-менш адпаведны абсягу іхняй вядомасці. Ні Новая Зеландыя, ні Канада, ні Аўстралія не з'яўляюцца цэнтрамі тэатра ці балета. Многаму маглі б яшчэ навучыцца танцоры з антыподаў у класічных балетных школах Масквы ці Санкт-Пецярбурга.

Мне, падчас спектакля, неадчэпна лезла ў галаву аналогія з рознымі беларускімі калектывамі песні і танца. Таксама абапіраюцца яны на багаты фальклор, адно менш папулярныя ў свеце, перабіраюць нагамі не горш аўстралійцаў, а спяваюць куды лепш за салістку „Gaelforce Dance". Што стаіць ім на перашкодзе ў заваёўванні сцэн, можа не Лондана, Парыжа ці Нью-Йорка, але хаця Таронта, Брысбейна ці Окленда? Ці патрэбны толькі такі спонсар як *Era GSM*? Ці можа іншы, свежы погляд на фальклор, не як на адзінаслушную нацыянальную культуру, а як на інспірацыю для пошукаў і расказаў універсальных гісторый?

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Агонь і меч у Беларусі

На экраны кінатэатраў увайшоў мастацкі фільм „Агнём і мячом" паводле гістарычнага рамана Генрыка Сянкевіча. Кінастужка з вялікім размахам адлюстроўвае падзеі, якія мелі месца 350 гадоў назад на Украіне. Польскія гісторыкі, калі пішуць аб паўстанні Багдана Хмяльніцкага пераважна канцэнтруюцца на фактах, якія адбыліся на украінскай зямлі, а наогул не пішуць аб сітуацыі на Беларусі.

Трэба ведаць, што паўстанне пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага сваім крылом ахапіла паўднёвабеларускія землі.

Хмяльніцкі накіраваў у Беларусь сваіх пасланцоў, каб заклікалі беларускіх сялян і гараджан да сумеснай барацьбы супраць магнатаў і шляхты. На тэрыторыю Беларусі ў канцы 1648 года прыйшлі першыя казацкія атрады. Да іх далучаліся беларускія сяляне і гарадская бядота. У хуткім часе на Беларусь з Украіны прыйшлі атрады Нябабы, Крывашанкі, Гаркушы і іншых. Іх заданнем была абарона войска Хмяльніцкага ад удару ў тыл.

Супраць паўстанцаў выступіла вялікае войска, якое складалася з шляхціцаў і чужаземных наёмнікаў — нямецкіх, шведскіх і венгерскіх.

Каталіцкая царква дала многа грошай, каб наняць ваякаў з іншых краін. Восенню 1648 года разгарэліся баі на беларускай зямлі. Першы ўдар шляхецкае войска абрушыла на Пінск — адзін з большых гарадоў Беларусі таго часу. Паўстаўшыя жыхары Пінска разам з казацкім атрадам Антона Нябабы знішчылі варожы атрад, які прабаваў захапіць горад.

Да Пінска тады рушыла вялікае войска. Паўстанцы адбівалі паспяхова неаднаразовыя штурмы. Але шляхціцам і наёмнікам удалося наблізіцца да брамы, прабіць яе і ўварвацца ў Пінск.

Паўстанцы мужна бараніліся. Тады карнікі падпалілі горад, дабівалі раненых паўстанцаў, забівалі жанчын і дзяцей. У Пінску загінула тады звыш 14 тысяч паўстанцаў. Увесь горад быў спалены. Атрымаўшы новыя падмацаванні шляхціцы і наёмнікі рушылі зімой на ўсход у напрамку Тураў — Мазыр— Рэчыца. Яны імкнуліся нанесці удар у тыл народнаму войску Багдана Хмяльніцкага. Шляхецкае войска хутка расправілася з жыхарамі Турава, спаліла горад і дайшло да Мазыра.

Жыхары Мазыра аб'ядналіся з казацкім атрадам Міхненкі і некалькі разоў адбівалі спробы шляхціцаў захапіць горад, але сілы былі няроўныя.

Частка паўстанцаў загінула ў баях на вуліцах Мазыра, а іншых карнікі адцяснілі да берага ракі Прыпяць, дзе многія патапіліся, не жадаючы здавацца ворагам. Цяжка паранены Міхненка быў захоплены ў палон. Яго скінулі на пакрытыя лёдам камяні з самай высокай вежы замка. Большасць жыхароў горада была пакарана смерцю.

У лютым 1649 г. шляхецкія атрады падышлі да Бабруйска. Паўстаўшыя жыхары Бабруйска разам з казацкім атрадам Паддубскага ўдала адбівалі напады шляхціцаў і наёмнікаў. Гэтым разам вораг схітрыў. У горад прабраліся пасланыя карнікамі лазутчыкі. Ім удалося падкупіць і схіліць да капітуляцыі багатых мяшчан і праваслаўнае духавенства.

Здраднікі ноччу адчынілі гарадскія вароты. Азвярэлыя шляхціцы ўварваліся ў горад і люта расправіліся з паўстанцамі: вешалі, саджалі на кол, адсякалі рукі.

Новы ўздзел вызваленчай барацьбы супраць феадалаў і рэлігійнага прыгнёту развярнуўся вясной 1649 года.

Багдан Хмяльніцкі паслаў на дапамогу беларускім сялянам і гараджанам 10 тысяч казакаў пад кіраўніцтвам Ільі Галоты. Казакі Галоты нанеслі паражэнне феадальнаму войску пад Рэчыцай. Шляхта і магнаты вымушаны былі паспешна фармаваць новыя палкі чужаземных наёмнікаў, якім удалося акружыць і разграміць атрад Галоты.

Летам 1649 года на Беларусь прыбылі новыя атрады казакаў: адзін пад кіраўніцтвам Сцяпана Падабайлы, а другі ў сіле 15 тысяч пад камандаваннем палкоўніка Міхаіла Крычэўскага — бліжэйшага паплечніка Багдана Хмяльніцкага. Да атрадаў Крычэўскага далучылася каля 15 тысяч беларускіх мужыкоў.

31 ліпеня 1649 года атрады Крычэўскага падышлі да горада Лоева і нечакана напалі на варожае войска. Спачатку паўстанцы з поспехам білі праціўніка, але вораг у пару атрымаў падмацаванне і адцясніў паўстанцаў да лесу. Ноччу паўстанцы здолелі выйсці з акружэння. Аднак шляхціцам удалося ўзяць у палон цяжка параненага Крычэўскага. Яны прапанавалі казацкаму палкоўніку перайсці да іх на службу, але ён з пагардай адкінуў гэтую прапанову і сам разбіў сабе галаву ўдарам аб кола фурманкі.

У бітве пад Лоевам шляхціцы панеслі вялікія страты і не змаглі пачаць наступленне на Украіну. Паўстанне аднак дагарала. Феадалам Рэчы Паспалітай удалося дабіцца перамогі і ўтрымаць сваё панаванне ў Беларусі. Вясной 1651 г. з Дзісны ў Маскву прыбыў манах Афінаген Крыжаноўскі. Ён паведамляў рускага цара, што ў Беларусі „ўсіх чыноў людзі" жадаюць далучыцца да Расіі. Многія жыхары беларускіх гарадоў пасылалі ў Маскву просьбы аб аб'яднанні Беларусі з Расіяй.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

# Беларускі першадрукар затужыў па Кракаве

Доктар Францыск Скарына (каля 1490 — каля 1540) нарадзіўся ў сям'і заможнага купца ў надрэнным горадзе Полацку, які знаходзіўся тады ў звязаным з Польшчай Вялікім княстве Літоўскім. Быў ён каталіцкім беларусам (зрэшты, беларуская мова ў Княстве была афіцыйнай да канца XVII стагоддзя). Крыніцы да біяграфіі першадрукара і першага беларускага пісьменніка — няпоўныя і даследчыкі розных нацыянальнасцей выпісваюць на яго тэму розныя фантазіі. Апошнім часам у нямецкім горадзе Бадэн-Бадэн выйшла друкам зусім недарэчная праца нейкага расіяніна, а і біяграфія нашага героя ў XXXVIII томе „Польскага біяграфічнага слоўніка" (Варшава—Кракаў 1998) аўтарства Аліцыі Нагурка (Alicja Nagórko) зусім не лепшая.

Пішу гэтыя словы таму, што ў Архідыяцэзіяльным архіве ў Кракаве (rps Officialia 32, s. 222) знайшоў я зусім новую крыніцу, якая ў пэўнай ступені разбурае біяграфію Францыска Скарыны. Звычайна ў распрацоўках пішацца, што паступіў ён на вучобу ў адзіны тады ў Рэчы Паспалітай Кракаўскі універсітэт у 1504 г. Гэта, аднак, не стопрацэнтная праўда, паколькі наш палачанін стаў студэнтам напрыканцы зімовага семестра, значыць, фактычна быў гэта пачатак 1505 г. (студэнты 14-15-гадовага ўзросту былі тады звычайнай з'явай). У Кракаве сутыкнуўся ён з кірылічным друкарствам немца Швайпольта Фіёля (на старажытнацаркоўнаславянскай мове) і польскай мовай, якая аказала пазней уплыў на ягоную беларушчыну. З канцом 1506 г. атрымаў ён першую навуковую ступень — бакалаўра гуманітарных навук.

Паводле біёграфаў, 1507-1512 гады Скарына правёў у заходняй Еўропе, а пасля атрымання ў лістападзе 1512 г. у італьянскай Падуі звання доктара медыцынскіх навук пасяліўся ў гусіцкай Празе — сталіцы Чэхіі, у якой адкрыў першую беларускую друкарню. Дзе і калі Скарына атрымаў званне магістра гуманітарных навук не вядома.

Паводле маіх ведаў і новай крыніцы Скарына не атрымаў магістэрскага звання ў Кракаве, але дзесьці на Захадзе да 4 жніўня 1512 г. Аднак па заходняй Еўропе падарожнічаў ён карацей чым звычайна мяркуецца, паколькі вярнуўся ён у Кракаў і тут менавіта 4 жніўня 1512 г. асабіста магістр Францыск Скарына з'явіўся перад судом епіскапскага афіцыяла, абвінавачваючы кракаўскую гандлярку Анну Крайслю. Значыць, перад несумненнай пабыўкай у Падуі Скарына зноў жыў у сталіцы Польшчы.

Пасля друкаваў у Празе і Вільні, потым зноў вярнуўся ў Прагу, дзе працаваў садоўнікам пры каралеўскім батанічным садзе і там памёр.

Прабаваў я на ўсялякія спосабы пашырыць веды аб другой пабыўцы вучонага беларуса Францыска Скарыны ў сталіцы Польшчы, але не атрымалася. Не згадваецца ён у кракаўскіх гарадскіх кнігах 1509-1512 гг. Магістэрскага звання Скарына ў Кракаве таксама не атрымаў, бо прагледзеў я нават рукапісныя, хіба захаваныя поўнасцю, спісы асоб, якім Кракаўскім універсітэтам былі прысвоены навуковыя званні, але Францыск з Полацка адсутнічае ў іх.

**Вацлаў УРБАН (Кельцы — Кракаў)**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Вучні са Старога Корніна з настаўнікам беларускай мовы Васілём Сегенем на фоне слаўнай царквы св.св. Анны і Міхаіла. Трэцяя справа — Анэта Галімская.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## *Вясна*

Траўка цягнецца да неба.
Сонцам цешыцца і ветрам,
Мокрай хмаркай, свежай глебай,
Што карэньчык корміць у нетры.
Проста ўвысь глядзіць нявінна,
То смяецца, то ўздыхае,
Пах кладзе на ветру плыні,
Пахі іншыя співае.

**Міра Лукша**

## *Сплюшка*

Калі я пачала жыць,
адразу захацела сніць.
Здалося мне, што можна марыць
каб цэлы свет пабачыць у мары.
Ды раптам сонца
засвяціла ў аконца!
Думала — свет мой сканаў,
ды гэта ранак настаў.
Тут я ўбачыла сястру,
ды ўсё думала, што шчэ сплю.
Яна паглядзела на мяне згары
і сказала: „Гэта ўжо не сны!"
А я чакала, каб вечар прыбыў,
каб мяне тата ў ванне памыў
а мама загадала мне ўзлезці
на „нары"
і каб я ўрэшце пачала
зноў марыць.

**Анэта Галімская, ПШ у Старым Корніне**

## *„Вялікая сустрэча"*

14 сакавіка г.г. у Бельскім доме культуры адбылася „Вялікая сустрэча". „Вялікая" таму, што мы маглі сустрэцца з многімі паэтамі і празаікамі — „белавежцамі".

Шаноўных пісьменнікаў прывіталі цудоўнымі вершамі дзеці з тэатральнага гурту „Антракт" і моладзь з Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Пазней пісьменнікі чыталі свае вершы і фрагменты прозы. Для мяне найбольш спадабаліся вершы Віктара Шведа таму, што былі гэта вершы для дзяцей. Пасля сустрэчы можна было купіць кніжкі. Я купіла кніжку Віктара Шведа „Вершы Натальцы" таму, што ў загалоўку стаіць маё імя.

Гэтая сустрэча была перад усім для моладзі і дарослых, але і мяне таксама яна зацікавіла. Я люблю слухаць паэзію нават тады, калі не зусім яе разумею.

Вечарам я чытала вершы з новай кніжкі сваёй малодшай сястры. Ёй таксама яны спадабаліся.

Прызнаюся, што не вельмі хацелася мне ісці на гэтую сустрэчу, але цяпер не шкадую, што пайшла.

**Наталля Бабулевіч, клас IV „а"**



*Удзельніцы „Вялікай сустрэчы".* Фота Міры ЛУКШЫ

## *Багаты і бедны*

*(англійская казка)*

Даўно, даўно таму жылі ў малой вёсачцы стары чалавек Адам з жонкай Мартай. Мелі сына Саўла і тры замужнія дачкі. Сын два гады як выехаў ад іх.

Аднойчы ў панядзелак Адаму і Марце прыйшоў ліст ад сына. Аднак бацькі не ўмелі ні чытаць, ні пісаць. Рашылі пайсці да настаўніка мясцовай школы, каб той прачытаў ім ліст. Саўл пісаў у ім, што жыве ў Лондане і цяжка працуючы ў фабрыцы зарабляе грошы. Вось у лісце прыслаў бацькам чэк на суму ста фунтаў. Марта з Адамам узрадаваліся з грошай ад сына.

У аўторак раніцай Адам апрануў найлепшае адзенне і, падпіраючыся кійком, пайшоў дзесяць кіламетраў да аўтобуснага прыпынка.

Заехаўшы ў горад, пайшоў у банк, каб атрымаць грошы ад Саўла. Стаў у доўгую чаргу. Калі ўжо быў ля акенца, банкір запытаў:

— Чаго хочаш, чалавеча?

— Хачу ўзяць сто фунтаў, якія прыслаў мой сын. Вось чэк, — паказаў дзядуля.

— Прашу дакументы, — сказаў банкір.

— У мяне няма ніякіх дакументаў, — усхваляваўся старэнькі.

— Тады ідзіце да ведамства і зрабіце пашпарт. Патрабаваць будуць там вашыя даныя і тры здымкі, — падказаў банкір Адаму і паклікаў наступную асобу з чаргі.

Аформіўшы фармальнасці ў ведамстве, Адам падаўся да фатографа. Зрабіў тры здымкі і заплаціў за іх належнае. Фатограф прасіў прыйсці заўтра.

У сераду аднак дзядуля ўстаў позна. Аўтобус ужо даўно ад'ехаў. Таго дня трэба было астацца ў хаце.

У чацвер прабудзіўся ўжо многа раней. Пасля трох гадзін быў у горадзе — у фатографа.

— Хто вы? — спытала жонка фатографа.

— Я Адам, пазаўчора рабіў тут тры здымкі. Сёння прыехаў, каб іх атрымаць, — сказаў стары.

У той момант увайшоў сам фатограф. Сказаў хлусліва, што не памятае, каб нехта такі як Адам быў у яго.

Раздражнены дзедка тры разы ўдарыў кійком фатографа. Падняўся крык і з вуліцы прыбеглі людзі. Старэнькага павялі на камісарыят. Там яму строга сказалі, каб больш не прыязджаў у горад. Яшчэ раз бядняк вярнуўся дадому без грошай.

Неўзабаве ў дзверы пастукаў пісьманосец. Прынёс ён ліст ад вельмі багатага пана. Ліст ізноў прачытаў настаўнік. Пан расказваў, як усё свае жыццё дапамагае бедным. У лісце ён яшчэ напісаў, каб Адам з'явіўся ў яго з чэкам ад сына.

У пятніцу Адам устаў радасны, бо падумаў, што ўрэшце нехта яму дапаможа ў бядзе. Паехаў у горад да ☞

„Зорка" № 17 25.04.1999

# Сустрэчы з сябрамі



*Ля вогнішча ў Белавежы: (злева) Моніка Якімюк, Аліна Сіроцкая, Уля Тарасэвіч, Мажэна Генішэўская і Ірка Кулік.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Сустрэчы „Зоркі” гэта падзея, у час якой сустракаюцца маладыя журналісты, якія супрацоўнічаюць з „дзіцячай старонкай” тыднёвіка „Ніва”. На старонках гэтай газеты яны памяшчаюць свае ўласныя артыкулы. Рэдактар „Зоркі” Ганна Кандрацюк прыдумала, каб пару разоў у год усе яны мелі магчымасць спатыкацца, супольна пагуляць, а таксама пагаварыць пра важныя і менш важныя справы.

Мары рэдактаркі здзейсніліся і цяпер адбыліся ўжо XVI Сустрэчы „Зоркі”. Дзеці і моладзь, якія атрымоўваюць запрашэнне на гэтае мерапрыемства ахвотна і з задавальненнем ім карыстаюцца.

Некалькі асоб могуць падумаць, што такія спатканні нецікавыя, але той, хто ўжо быў хаця адзін раз, ведае аб цёплай атмасферы, якая пануе на гэтых з’ездах.

Такія сустрэчы гэта не толькі спатканні з сябрамі, але таксама нагода для добрага адпачынку, гуляння і навукі пра тэатр, журналістыку, жыццё, літаратуру.

Асаблівай цеплынёю адзначаюцца вечарыны, на якіх мы многа спяваем. Думаю, што нашы песні, апрацаваныя і развучаныя на Сустрэчах — дасканалы матэрыял не на адну унікальную касету.

Гэта былі мае чацвёртыя Сустрэчы „Зоркі”. Я зноў вельмі добра гуляла, адпачывала, бо за кожным разам лепш і цікавей і ўсё больш падабаюцца такія спатканні.

Дзякую Табе, „Зорка”!

**Мажэна ГЕНІШЭЎСКАЯ з Гарадка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ► | | ▼ | Kwiat | ▼ | Ural / Alt ▼ | Banan | ▼ |
| Kij | Chińskie imię / Ikra ► | | ▼ | | | | |
| Limit / Pohybel | ▼ | Głaz ► | | | | | |
| ► | | | | | | Oda ▼ | |
| Mat / Pisk ► | | | | Ton ► | | | |
| ► | | | | | | | |
| Tkanka ► | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 13:** Драпак, дрымота, рэч, вар, увага, кагарка. Яд, друк, дрэва, рычаг, га, повар, дата, карта.

Узнагароды, **фламастэры „Магік”**, выйгралі **Каміля Карповіч** і **Уршуля Ляўчук** з Гарадка. **Віншуем!**

пана. Дзверы адчыніў яму лакей і прасіў крыху пачакаць.

Зараз з’явіўся пан. Запрасіў старога ў салон, пачаставаў пірагом і чаем. Захацеў пабачыць чэк. Адам даў. Багацей сказаў, што чэк ужо стары і не мае ніякай вартасці. Зразумела, была гэта няпраўда, але дзядуля паверыў багатаму пану і пакінуў яму чэк. На развітанне пан даў канверт. Паводле яго ных слоў, мела там быць сто фунтаў. Шчаслівы і ўзрадаваны Адам вярнуўся ў сваю вёсачку.

Калі ўвайшоў у хату, жонка адкрыла канверт. Аказалася, што пан паклаў туды ўсяго адзін фунт. У той момант бацькі ўспомнілі сына Саўла. Ён цяжка працуе ў фабрыцы, а яны так хутка страцілі прысланыя ім грошы! Ізноў жыць прыйдзецца ў бядзе.

**Т. Ц. ДЖАП (T. C. Jupp)**

*З англійскай на беларускую мову пераклалі: Дарэк БАЕНА і Павел БЕЛАКАЗОВІЧ, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім*

# Плагіятам — не!

Допісы нашых карэспандэнтаў надзвычай нас радуюць. Сярод вялікай колькасці артыкулаў сустракаем цікавыя праблескі таленту і інтэлекту. Але не толькі! Нярэдка атрымоўваем тэксты — **плагіяты**. Самай папулярнай прыкметай гэтага паганага занятку з’яўляецца перапісванне вершаў вядомых беларускіх паэтаў ды падпісванне іх сваім прозвішчам. Апошнім часам школьнікі заразіліся плагіятаваннем казак — класічных твораў вядомых пісьменнікаў. Бяруць яны казку Янкі Купалы, перапісваюць яе ў скарочанай версіі ды ўстаўляюць два-тры свае словы, а нарэшце падпісваюць сваім прозвішчам! Іншай часта сустраканай практыкай з’яўляецца пераклад вядомых літаратурных твораў з польскай мовы. Не было б тут нічога сенсацыйнага, калі б перакладчык памясціў яшчэ прозвішча аўтара (некаторыя пераклады цалкам прыстойныя). Таму паведамляю ўсіх амбітных плагіятараў, што іх тэксты не будуць друкавацца на нашых старонках.

Праз тыдзень падвядзем вынікі конкурсу „Артыкул квартала”.

**ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа

### Найлепшы прадмет

З настроем прыўзнятым
Вярнуўся сын дахаты.
Матуля нечакана
Спыталася Івана:

— Які прадмет у школе
Ты любіш найболей?
Адказвае сынок:
— Вядома, што званок.

### Мучыць сумленне

Маці прыбірае хату,
Гудзе страшэнна пыласос.
Сынок падумаў вінавата:
Цяжкі маёй матулі лёс.

— Я не магу глядзець няспынна
І маю да сябе дакор,
Што не мая гэта павіннасць.
Выходжу хуценька на двор!

# Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Як Любчын татка з Богам размаўляў**

Развітаўся татка з дачушкай — пацалаваў у шчочку — спала Любачка і нават не прачнулася, толькі на другі бачок — верць! — і сапе паціхеньку — не ўсе яшчэ сны сасніла, ды і набегалася ўчора з таткам — дровы памагала насіць, — а татка лямпу-начнік выключыў — зацемна, у чатыры гадзіны падняўся, каб на першую электрычку паспець, — і патэпаў на станцыю: на працу трэба ехаць — новы рабочы тыдзень пачынаецца.

Два дні на летніку быў. Дровы пад паветку перанёс, каб восенню на дажджы не моклі, яшчэ тое-сёе зрабіў, нават у лазню мясцовую паспеў, а Любачка з матуляй у гародзе капашыліся — адпачынак цяпер у матулі, дык яны і жывуць тамака, на летніку, а татка толькі наездам, — дык ён за торбу, ды ў горад: у яго адпачынак у траўні быў, не пашэнціла разам.

Толькі дахаты прыехаў, радыё ўключыў, а тут перадаюць, што ў краіне ўлада вярхоўная змянілася — не Гарбачоў цяпер галоўны, а камітэт надзвычайны, — і што цяпер новае жыццё пачнецца, лепшае...

Паслухаў татка і нічога на гэта не сказаў: ён і сам не адзін раз новае жыццё пачынаў, ведае, што гэта такое.

Ужо і дзверы зачыніў, і ключ ужо ў замку, ды раптам... вярнуўся, прысеў на ложак і ціха, нібыта з Богам гаворачы, сам сабе кажа: „То і ў вайну — хоць немец побач хадзіў — жывы застаўся... І сорак сёмы — галадуху! — перажыў... І кукурузы хрушчоўскай паеў... і яшчэ таго-сяго паспытаў... Але — жывы, дзякуй Богу! То мо і ты, дачушачка, пры новай уладзе як выжывеш... І дзетачак сабе нарадзіш, каб было каму сэрцайка сваё аддаць... Толькі заўсёды сваім розумам жыві, бо што табе Бог даў — усё тваё, дачушка...”

Дык яна так і робіць: пярэчыць татку, калі не згодная...

*(працяг будзе)*

**Анатоль КІРВЕЛЬ**



*VI клас ПШ у Орлі з настаўніцай беларускай мовы Яўгеніяй Тхарэўскай.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Для дабра ці на сваю згубу

Калі Іаан Вільмут скланіраваў авечку Долі, успрынята гэта было як сенсацыя ў навуцы, чарговы яе поступ. Апрача вучоных, звычайны чалавек, мабыць, і не ўглыбляўся ў гэта і не задумваўся над рэзультатамі гэтага адкрыцця. Вучоныя добра ведалі, што значыць умяшанне ў генетыку і якія нечаканасці можа яно падарыць жыхарам Зямлі. Аднак яны бачылі ў гэтым, так як у кожным новым вынаходстве, толькі карысны бок, прыдатнасць чалавеку. Марыя Кюры-Складоўская, адкрыўшы радыеактыўны радый не задумвалася над тым, што могуць яго выкарыстаць супраць людзей. Працы над кланіраваннем вядуцца далей. У Арэгоне выгадавалі дзве аднолькавыя, як люстранае адбіццё, малпы рэзусы. Але што гэта простаму чалавеку, калі яго больш непакоіць тое, ці град збожжа не выб'е! Аднак, калі вучоныя ў Паўднёвай Карэі аб'явілі, што той жа дарогаю стварылі людскі зародак — копію дарослай жанчыны, які пачаў развівацца, свет спыніў дыханне. Адкрылі таямніцу жыцця? Пасыпаліся пратэсты. Нічога дзіўнага. Кожнае адкрыццё, якое ломіць прынятыя каноны, успрымаецца варожа. Тое ж было з Мікалаем Капернікам, падобнае перажыла тэорыя Чарлза Дарвіна і многіх іншых. Усё было б добра, калі б навука працавала ў карысць чалавека, а не на яго шкоду. Аднак там, дзе ёсць разумны, заўсёды паявіцца фанатычны дурань. Відаць, для раўнавагі. Тут небяспека можа быць намнога большая чым нават атамная бомба! Нездарма гавораць, што найгоршым ворагам чалавека з'яўляецца ён сам.

Гэтым разам вучоныя таксама працавалі для чалавецтва. Ад часу, калі медыцына навучылася падмяняць чалавеку яго хворыя органы здаровымі, узятымі ад паміраючага, вучоныя і пачалі ўглыбляцца ў людскія гены з надзеяй выгадаваць паасобныя органы або рэгенераваць хворыя. Гадуюць ужо людскую скуру, косці, а нават на целе звычайнай мышы выгадавалі чалавечае вуха. Дазволіць гэта лячыць многія хваробы, якія дагэтуль лічыліся невылечнымі. Пададзеныя хвораму на цукровую хваробу, ныркі, сэрца, касцявы мозг клеткі гэтых органаў рэгенэруюць іх і вяртаюць хвораму здароўе. Так можна будзе лячыць мозг, паркінсанізм ці хваробу Алцгеймера. Ну, проста, цудоўна. Значыць чалавек можа стаць несмяротным. Не трэба будзе чакаць чыёйсьці смерці каб, прыкладна, яго здаровым сэрцам падмяніць сваё хворае. Няўжо аж так добра? З таго часу, калі фінікійцы прыдумалі грошы, чалавек і пачаў жыць толькі для іх. Гэта не за палітыку забіваюць, — забіваюць за грошы. І гэтым разам таксама ўсё пералічаць на іх.

Вось уявім сабе — жыве нейкі багацей ці галава дзяржавы. Мае ўсё. Толькі непазбежна мінаючыя гады наближаюць старасць. Каму яна даспадобы? Ці ж не дазволіць сабе такі на гадоўлю сваіх двайнікоў, дзеля стварэння запасу свежых органаў? Вось і ёсць такая небяспека, што паявяцца цэлыя гадавальнікі запасных органаў для даўгавечнасці. Чалавек зробіць усё, што можна будзе пералічыць на грошы, што дасць яму сілу і ўладу над іншымі. А што калі з мышы з чалавечым вухам выгадуюць, прыкладна, сабаку з чалавечай галавою, або наадварот? Ужо папулярна-навуковая прэса інфармавала, што ідуць доследы над стварэннем чалавеча-звярынага зародка. Спалучылі ядро чалавечай клеткі з каровінай. Няўжо хацелі выгадаваць чалавека-быка? Дык можа міфічныя мінатаўры і кентаўры не былі выдумкай?

Хто з нас не памятае з бабуліных казак Бабу-Ягу, Цуда-Юду, шматгаловага змея Гарыныча ці Кашчэя Бяссмертнага або іншыя дзівосы. Навука ў руках фанатыкаў — гэта найгоршае ружжо. Кожны спартсмен стаючы да спаборніцтва павінен быць падрыхтаваны на пройгрыш. Навука таксама развівацца для дабра чалавецтва, але адкрыццё, так як і кій — мае два канцы. Чалавек прывык да рабства і як свет светам існуе, хаця б сягнуць да Бібліі — заўсёды былі ўладары і тыя, якія на іх працавалі. І ўсё рабілася ў імя дабра. А што калі адкрытае, а навука пойдзе яшчэ далей, выкарыстае нейкі маньяк і створыць армію істот са звышчалавечай сілай і запраграмаваным розумам? Ужо гадоў пятнаццаць таму паявілася думка, каб спалучаючы чалавека з шымпанзэ выгадаваць моцнага мутанта, якога можна было б выкарыстаць да небяспечных работ. Афіцыяльна доследы былі спынены, але хто яго там ведае... Ці Гітлер, маючы такую магчымасць, не стварыў бы спецыяльную армію? Асяроддзе пад уплывам чалавека хутка мяняецца. Магчыма, што нашы праўнукі ў сваёй хцівасці спрабуюць засяліць космас, але каб гэта стала магчымым, чалавек мусіць значна даўжэй жыць і навучыцца дастасоўвацца да розных умоў. Натуральная эвалюцыя не паспявае за чалавечымі памкненнямі, але эвалюцыя кіраваная — можа. Ахвота перарасла патрэбу. Чалавеку заўсёды мала. Ужо вучоныя пераканаия, што ў трэцім тысячагоддзі людскі гатунак падзеліцца на тых натуральных, са старога свету і тых, генетычна ўдасканаленых, якіх узоры ўзніклі ў лабараторыях. Зусім як у мінулым, калі чалавек і малпа пайшлі ў розных напрамках ад сваіх супольных продкаў. А можа проста ўсё паўтараецца. Новая эпоха ў медыцыне пачнецца з 2003 года. Тады людскі геном будзе поўнасцю акрэслены і параўнаны з геномамі іншых арганізмаў. Можна будзе маніпуляваць як хочаш. Як жа нагадвае гэта Вавілонскую вежу! У японскай старадаўняй культуры гаварылася гэтак — чалавек можа перамагчы нават неба, але, калі ўжо гэта зробіць, неба пераможа яго.

**Міхаль Пашкоўскі**

Якія мы людзі

# Дом моды

Наперакор загалоўку пачну не ад моды, а ад плётак. Плёткі — любімы занятак маламестачковых „цётаў", якія, адарваўшыся раптам ад працы на зямлі, адчулі, што маюць страшэнна многа свабоднага часу. А канкрэтнага занятку, які даваў бы ім сатысфакцыю ў жыцці, яны тут не знайшлі. І так усе там ведаюць усё пра ўсіх.

Такіх „цётаў" нямала знойдзецца і ў горадзе, дзе, здавалася б, цікавых спраў не бракуе. Людзі гавораць, каб заглушыць сваю самотнасць, каб адчуць сябе лепшымі, разумнейшымі за іншых. У плётках, як на далоні, відаць, што з чалавека вылазіць комплекс горшасці. Галоўнае — каб была сенсацыя!

Калі плётка прынамсі мае нейкую рэальную падставу, тады яе яшчэ можна так-сяк успрыняць. Горш, калі, як кажуць, у чалавека ўкралі ровар, а плётка далейшаму кругу людзей данесла вестку, што гэты чалавек — злодзей, бо невядома ці ў яго ўкралі ровар, ці гэта ён яго ўкраў... Важна, што нешта было.

* * *

Пляменніца майго мужа ставіла першыя крокі на ніве медыцыны. Калісь яна, скромная, нікому яшчэ невядомая ў шпіталі стажыстка, мела дзяжурства.

Вядома, у пачатку сваёй працы маладому лекару не прыйдзе ў галаву, што і на дзяжурстве ў вольную хвіліну можна крыху ўздрамнуць. І так амаль усё зробяць медсёстры. Хіба, што хтосьці з хворых адчуў бы сябе горш.

Сядзела так пляменніца ў дзяжурцы, п'ючы моцны чай, і слухала, аб чым гавораць сястрычкі. Так-так, рабілі і гаварылі. Рыхтавалі лякарствы на раніцу, для кожнага пацыента раскладалі ў асобны кілішак і ставілі на рухомы столік.

Неяк памалу і наша стажыстка ўцягнулася ў размову і часамі ўстаўляла нейкае сваё слова. Высветлілася, што і Беласток — маленькі горад, і ўсе пра ўсіх і тут усё ведаюць. Пляменніца насцярожылася, калі размова сышла на тэму моды. У пэўны момант яна пачула, што дзяўчаткі ўзялі „на варштат" жонку свайго дзядзькі, яе цётку, гэта значыць, мяне. Яна замоўкла.

— Ведаеш, адкуль у яе столькі ануч? — сказала адна медсястра другой. — У яе ж усё проста з Парыжа. Дальбог, у яе там жыве сястра, якая мае дом моды „Жаклін". Што ёй! Усё, што наймаднейшае, зараз трапляе ў Беласток.

Пляменніца ўсміхнулася. Нешта пачала гаварыць, што гэта няпраўда, але сястрычкі зацюкалі яе. Яны ведалі ўсё лепш.

* * *

Хто памятае крыху ранейшыя часы, дык ведае, што для тых, хто хацеў апранунуцца больш-менш модна, былі не вельмі спрыяльныя ўмовы. З зайздрасцю спаглядалі мы на заходнія крамы з цэлай гамай, даслоўна вясёлкай каляровых нітак для вязання, з абуткам — ад сандаляў да высокіх, рыбацкіх ботаў да палавіны бядра, з цудоўнай прыгажосці матэрыяламі. На тыя часы, аднак, цэны ў валюце былі амаль недаступныя нашаму звычайнаму турысту. Толькі часамі чалавек прывёз сабе нейкі цікавы паясок, кавалак матэрыялу ці туфлі. І так людзі неяк камбінавалі, каб з тутэйшых матэрыялаў і іншых тавараў нешта вычараваць, каб выйшла неяк сэнсоўна. А то купіш сырыя баранія скуркі, дасі іх выправіць, памаляваць прыгожым колерам — і ўжо ёсць нешта іншае. А са старога футра зробіш курткачку з вязанымі рукавамі. Праўду кажучы, матэрыялы дык і ў нас былі. Трэба было толькі паглядаць журналы мод — і нешта ўжо напэўна можна было прыдумаць. Хто не мог купіць журнала, мог прагледзець яго ў Клубе міжнароднай кніжкі і прэсы.

Усё ж, думаю, не было так кепска, калі „цётам" здалося, што ў мяне сястра ў Парыжы.

* * *

Рэчаіснасць была цалкам іншая. Сястра ў мяне сапраўды была, яна жыла не ў Парыжы, а ў Мінску. І я, па меры сваіх магчымасцей, апранала яе. Усё ж такі польская лёгкая прамысловасць была ў той час намнога лепшая за беларускую, і мая сястрычка-нябожчыца ўсё паўтарала: „Польскія тавары мяне цалкам задавальняюць". А мне абсыпанне яе, маёй другой маці, падарункамі давала вялікую радасць.

З усёй той балбатні можна вылушчыць адзін факт: што ў мяне была сястра за граніцай. А з гэтага плётка ўжо зрабіла цэлы міф.

Каб былі ведалі хаця крыху больш фактаў, дык таму дому моды далі б прынамсі назву „Наталі", а не „Жаклін" Мая ж сястра была Наталляй, а не Янінай.

**Ада Чачуга**

# Сведку ў нос!

Ніхто не хоча, каб яго цягалі па судах. Нават уласныя справы афармляць — адно мучэнне, а што — чужыя?! А што, я вінаваты, што бачыў і чуў?! Каб яшчэ і мяне пасля тое чакала? То ж у масцы выступаць не буду... Выйдзе з турмы — мяне заб'е! Ды колькі разоў яго ўжо саджалі — і што? За тое, што зрабіў, смерцю пакараць трэба! А на такіх — гібелі няма! Гуманітарнасці не шкадуюць забойцам-бандытам, час такі, а хто пашкадуе ахвяру?!.

Быць сведкам у судзе — і часу, і адвагі трэба.

Сцяпан Бэзоўскі быў і бачыў. Як біў Багуміл Рус сваю сужыцельку. Як яе катаваў фізічна і маральна. Не вельмі хацеў быць сведкам у судзе, але ў паліцыйных пратаколах выступаў як неадназовы сведак затрымання таго хулігана, які пасля задушыў матку свайго дзіцяці. Апроч таго ўключыў яго ў спісак сведкаў адвакат-абвінаваўчаючы, якога наняла сястра замардаванай Галіны Дорман каб разам з пракурорам абвінавачваў Багуміла Руса. А адвакат-дзяржаўны абаронца... прадставіла ксеракопіі дакументаў (пратаколаў і сведчанняў, разам з адрасамі сведкаў) сям'і забойцы (прынамсі так кажа брат арыштаванага Крыстыян Рус). Дакументы тыя бачылі таксама журналісты (г.зн. людзі з паседчаннямі, што яны журналісты) якія, пакуль справа пачалася, апісалі тое-сёе ў газетах, у большасці цытуючы паказанні забойцы. А і яны маюць таксама адрасы і шырокае кола знаёмых. І пачалося!

Паколькі на паседчанні пра яўку на справу было выразна напісана, што неабаснаваная непрысутнасць пагражае сведку штрафам, Сцяпан Бэзоўскі, абмеркаваўшы ўсё з жонкай, рашыў пайсці ў суд, каб сказаць праўду, г.зн. паўтарыць свае папярэднія паказанні. Але як тут што скажаш?!

Два тыдні перад датай справы наведаў яго (так як і шмат каго з іншых сведкаў) брат забойцы. Крыстыян Рус пастукаў у дзверы кажучы, што ён „з суда", а потым настукаў сведку, папярэджваючы яго спачатку за што, паколькі ўжо раней пазнаёміўся з ягонымі паказаннямі. Абяцаў адпаведна большую „ўзнагароду", калі той явіцца ў судзе і „пісне". А ёсць жа ў яго і дзеці, якія ходзяць штодзень у школу такую і такую, у клас такі і такі, а ўсё можа здарыцца і па дарозе ў тую школу, і ў музычную школу, куды возіць пан Сцяпан сваіх дзетак штовечар, ёсць і жонка, якая працуе там і там... „My was załatwimy!" — папярэдзіў. А Сяпан Бэзоўскі сам бачыў быў у руках Багуміла Руса пісталет...

Сцяпан Бэзоўскі з'явіўся ў судзе. Нос ужо адпух, жончына касметыка зрабіла сваё. Мяўся, круціўся сведак на вачах забойцы, утаропленых у яго. Нібыта ён бачыў быў, быў там, але і не вельмі... Не памятае, людская ж памяць... ну, вядома, якая яна ў чалавека. Гэта ж так даўно... паўгода таму было... Прысяга трымае за язык, але ж і нос баліць, і больш яшчэ будзе, калі прагаворыцца... Жонка ж папярэджвала: „Не сунь носа, нехай там хоць і пазабіваюцца... Нашто маюць цябе па судах цягаць?! Паглядзі, што з Янушам Гнядкам было — заступіўся за інваліда, то яго самога судзяць за хуліганства!"

Так яно і ёсць. Хіба трэба мець вялікую адвагу, каб у абароне слабейшага стануць ці праўду сказаць, як было?.. А барані Бог сам хапай за нейкі кол ці нож у „неабходнай абароне"! А нахабнікі нахабнеюць. Бо ні суд чалавечы, ні Божы хіба ім не страшны. А закон ёсць законам для тых, хто яго хоча выпаўняць і толькі іх ён абавязвае? Таму і баімся выйсці на вуліцу.

**Лукаш Баравіцкі**

*(прозвішчы зменены)*

# Цудадзейная ікона Знаменне ў Вульцы-Выганоўскай



Назва Вулька-Выганоўская паходзіць ад прозвішча яе ўладальніка Ваганоўскага. Род Ваганоўскіх выводзіўся з маёнтка Ваганаў Брэсцкага павета, які быў ім перададзены каралём Казімірам Ягелончыкам каля 1486 г. У 1528 г. у ваенных спісках лічыцца сын Міхайла, Фёдар Ваганоўскі (Вагановіч), сыны якога займаліся пасля сплавам збожжа ў Гданьск. У рэестры мытнай каморы ва Улацлаўку пад 1544 г. упамінаюцца Фёдар Ваганоўскі і 60 лаштаў збожжа, а пад 1557 г. — Марына Ваганоўская, жонка Фёдара, і 20 лаштаў.

У 1567 г. Аляксандр, Фёдар, Іван і Юрый Ваганоўскія ставяць па пяць коней кожны з Ваганова і Падбельска (Падбелля) Бельскага павета. Пад 1594 г. сустракаем Рыгора і Фёдара. Першаму з іх належалі Ваганова, Падбельск і Краснае Сяло, другому — таксама Ваганова і Круглае. Гэтага ж года фальварак Круглае быў падзелены паміж чатырох Ваганоўскіх. На сваіх абшырных маёнтках Ваганоўскія пабудавалі цэкрвы ў Вульцы і Падбеллі.

У дакуменце „Wizyta generalna" ад 1727 г. царква ў Вульцы апісана наступным чынам: „... cerkiew na górce drewniana, zbyt stara. Cmętarz z parkanu ruina jest..." Пералічваюцца ў ім „carskie Drzwi staroświeckie ubogie... obrazów dwa wielkich Salwatora y ś. Antoniego a Moskiewskich sześć". Са зґаданага тэксту вынікае, што царква існавала ўжо да Брэсцкай уніі. Чарговае апісанне ў ім датычыць іконы Божай Маці, аднак паводле яго цяжка ўстанавіць, да якога тыпу ікон яна належала. Паводле Каталога помнікаў мастацтва, каштоўнымі ў гэтай царкве лічацца „feretrony — 1/ z obrazem dwustronnym MB Pośredniczki Łaski i św. Michała Archanioła, barokowy, XVIII w., 2/ rokokowy z II poł. XVIII w. z obrazem MB z Dzieciątkiem i św. Tekli, i 3/ ikona św. Michała z XVIII w. namalowana na desce".

Да каштоўных абразоў належыць ікона Божай Маці *Знаменне* ў металічнай рызе, якая асабліва шануецца мясцовымі вернікамі. Іконы гэтага тыпу змяшчаюць паясную выяву Прасвятой Багародзіцы з узнесенымі к небу ў малітоўным жэсце рукамі і Спрадвечным Дзіцяткам на грудзях. З'явіліся яны на Русі вельмі рана, а сваю назву ўзялі ад Ноўгарадскай іконы.

Падчас аблогі Ноўгарада ў 1170 г. жыхары днём і ноччу маліліся за выратаванне горада. Святы архіепіскап Іаан, які маліўся перад іконай Ісуса Хрыста, раптам пачуў голас: „Ідзі ў царкву Святога Збавіцеля, вазьмі ікону Святой Багародзіцы і пастаў яе на абарончым муры насупраць войска". Калі варожае войска стала штурмаваць муры, адна страла папала ў святое Аблічча Божай Маці, абярнула ікону к гораду, а з вачэй Прачыстай Дзевы паліліся слёзы. Ноўгарадцы ў гэтым цудоўным задарэнні пабачылі знак (знамение), што Уладычыца Нябесная ўмаляе Сына выратаваць горад. На памятку цудоўнага выратавання горада 27 лістапада ўстаноўлена было свята шанавання гэтай іконы, а ў 1354 г. узведзена царква ў гонар Іконы Божай Маці *Знаменне*. З гэтай іконы былі зробелны цудадзейныя копіі Мірожскай, Абалацкай, Царскасельскай, Курскай і іншых ікон.

Пад канец XVIII ст. Вулька-Выганоўская належала ўжо Ігнату Бабравіцкаму, падстолему Мельніцкай зямлі. У 1792 г. праведзены быў капітальны рамонт царквы. Ад папярэдняга храма засталіся толькі старыя сцены; дах і купал былі пабудаваны нанава. Тады згадвалася таксама пра рэзбленны пазалочаны алтар, у якім знаходзілася цудадзейная ікона Божай Маці.

У I палове XIX ст. Уніяцкая царква хілілася к заняпаду. З моманту далучэння уніятаў да праваслаўя вернікі пачалі рамонт царквы. Прыхаджане прыдбалі таксама свайму храму багатае літургічнае начынне. Урачыстае асвячэнне царквы адбылося 7 лістапада 1876 г. I сусветная вайна выгнала вернікаў у бежанства, адкуль вярнуліся яны ў 1919-1921 гг. Тады прыход у Вульцы не атрымаў статусу штатнага прыхода і быў далучаны да Кляшчэль. У 1928 г. адміністрацыйныя ўлады дазволілі адкрыць у Вульцы штатны філіял Кляшчэлеўскага прыхода.

У міжваенны перыяд прыхаджане аддалі ікону на рэстаўрацыю ў Вільню. Назад вярнулася яна на чыгуначную станцыю ў Рыгароўцах, дзе сустрэлі яе вернікі і з хрэсным ходам занеслі святыню ў царкву ў Вульцы. Па дарозе прыхаджане рассцілалі дываны, кідалі кветкі, прасілі заступніцтва і блаславенства. У 1937 г. падчас пажару вёскі згарэла і царква. Аднак прыхаджане выратавалі літургічнае начынне і ікону — вырвалі яе з рамаў і вынеслі.

Ікону Божай Маці *Знаменне* вернікі назвалі *Пакровам* — ад назвы прыхадскога свята. 14 кастрычніка 1938 г. — у дзень Пакровы Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы і Вечнадзевы Марыі — быў пакладзены краевугольны камень пад новую мураваную царкву. Пачатак II сусветнай вайны спыніў будаўнічыя работы, а назапашаны матэрыял змарнаваўся. Толькі ў 1946 г. адноўлена была будова. У дзень прыхадскога свята ў 1953 г. адбыўся абрад асвячэння царквы. Ікона Божай Маці ў срэбнай рызе была памешчана на відным месцы — на левым баку кліраса.

Цудадзейная ікона была напісана на палатне, наклееным на дошцы вялікіх памераў. У 90-х гадах рыза іконы была пазалочана. Ад вельмі багатага інтэр'ера старадаўняй царквы ў Вульцы да нашага часу захавалася толькі ікона Божай Маці, якая дапамагае вернаму люду трываць у іхных жыццёвых радасцях і смутках. **(агс)**

# Кашуля і гарсэт Падляшша як кнігі засцерагальна-арнаментальных сімвалаў

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

**Гарсэты**

Беларускі жаночы касцюм ці польскі традыцыйны гарнітур не быў паўсюдна абсалютна аднародным. Гэта зусім натуральная з'ява. Культура кожнага народа развіваецца не ізалявана ад культуры іншых народаў, якая прама ці ўскосна ўздзейнічае на яе.

Культура Палесся, напрыклад, цесна звязана з культурай пагранічных раёнаў Польшчы, Украіны. Аб гэтым яскрава сведчыць тэрміналогія матэрыялаў, а дакладней, маем на ўвазе „кабат" дамачоўскага комплексу жаночага адзення, уладаўскага (падляшскага) гарнітуру. Няма даных, якія дазволілі б устанавіць дакладна, калі з'явіліся ў касцюме беларускіх сялянак безрукаўкі. Комплекс з безрукаўкай даволі рана і ў больш тыповым еўрапейскім выглядзе пранікнуў у Літву і хутчэй за ўсё праз Польшчу, праз Польшчу ж, відавочна прыйшлі яны і на Беларусь, якая разам з Літвой у той перыяд тварыла ВКЛ, аб'яднанне з Рэччу Паспалітай. На Беларусі комплекс жаночага касцюма з безрукаўкай з'явіўся тады магчыма, таксама як і ў Літве, у XVII ст. (сярэдзіна), таму што ў XVIII ст. ён быў ужо шырока вядомы ў мяшчан. А на працягу II пал. XVIII ст. і XIX ст. безрукаўка распаўсюдзілася і ў сялянскім асяроддзі, але трэба адзначыць, што не мела яна распаўсюджання на ўсёй Беларусі ці Польшчы, за выключэннем в. Дамачова, а таксама Падляшша, канкрэтна в. Уладава.

Як ніводная частка касцюма, безрукаўка мела шматлікія назвы: станік, безрукаўка, каптан, нагруднік, кітлік, лейбік, шнуроўка, гарсэт, кабат і іншыя, але „кабат" меў найбольш шырокае распаўсюджанне. Некаторыя назвы безрукаўкі лёгка тлумачацца яе прызначэннем. Так станік, нагруднік, безрукаўка, шнуроўка адлюстроўваюць характэрныя асаблівасці гэтага віду адзення, якое прыкрывала верхнюю частку цела — грудзі, стан. Паколькі безрукаўка сцягвала верхнюю частку цела, яна служыла адначасова станікам і гарсэтам.

Шылі іх на падшэўцы з даматканых і фабрычных тканін чорнага, фіялетавага, сіняга, блакітнага, чырвонага, малінавага колераў (сацін, тонкае сукно, шарсцянка, танныя гатункі парчы, аксаміт, шоўк). Спераду, у залежнасці ад густаў вясковых жанчын, зашпільвалі іх на гузікі або зашнуроўвалі тасёмкай, стужкай ці шнурком. Падляшскія і дамачоўскія гарсэты характарызаваліся пераважна каляровымі, шклянымі або металічнымі гузікамі. Безрукаўкі вызначаюцца яркім мастацкім афармленнем, якое канцэнтравалася на грудзях, а потым сцішаным водгукам праходзіла па краях пройм, гарлавіны, крыса, нізу баскі, уздоўж канструкцыйнай лініі. Своеасаблівасць безрукаўкам надавалі дадатковыя ўпрыгожанні: нашыўка, парчовая стужка і тасьма. Вышывалі звычайна баваўнянымі ніткамі, а больш заможныя сяляне — шоўкам, срэбнай або залатой ніткамі. Шырока была вядома аплікацыя і шамэрунак. Вышыўка была больш светлых таноў, чым матэрыял шнуроўкі і адлюстроўвала звычайна раслінныя формы — кветкі, галінкі, якія размяшчаліся сіметрычна.

Падляшскія гарсэты падобныя на крой кабата. Безрукаўка ўладаўскіх жанчын складалася з васьмі кавалкаў матэрыялу чорнай або сіняй саціны ці аксаміту. Пярэдняя частка гарсэта звана была „сэрцам", якога аздаблялі арнаментальным швом — строчкай-„стэбноўкай" жоўтых нітак. Пасярэдзіне арнаменту памешчаны былі жанчынамі пяць жоўтых гузікаў, а па баках прышывалі таксама гузікі, але чырвонага колеру. Ужо самыя гузікі ўтваралі арнаментальныя шляхі. Бакавыя краі сэрца аблямоўвалі жоўтай і чырвонай крэпінкай (тасьма хвалістага характару), а гарлавіну выраза і ташкі баскі афармляліся зялёнымі. Сустракалася і вышыўка ланцужком.

Своеасаблівая прыгажосць народнага святочнага адзення не можа пакінуць гледача раўнадушным. Уражвае гармогія асобных яго частак, якая ўтварае ўрачысты ансамбль. А каларыт і канструкцыя аздобленых швоў падкрэслівала непаўторнасць Паляшскага рэгіёна, яго мастацка-філасофскую культуры вытканую, вышытую вясковай жанчынай. Таму, каб зразумець таямніцу спадчыны, варта запытацца бабулі як калісьці было...

**Івона Марціновіч**

# Свіст у царкве

— Мяне аж змарозіла ад таго свісту. Думала, што сатана ў царкву прыплялася, — пракаментавала здарэнне пенсіянерка з Ласінкі. У тамашняй царкве, у час усяночнай велікоднай багаслужбы, калі святар зачытаў на польскай мове Евангелле, раздаўся свіст.

— Не трэба нам польскай мовы ў царкве, — баранілі непакорлівага хрысціяніна некаторыя ўдзельнікі багаслужбы.

— А як католік нейкі, што ў госці прыехаў і прыйшоў наш абрад пабачыць, ён жа ж *па-руску* не зразумеў бы, — баранілі польскай мовы іншыя. Амаль усе суразмоўцы былі аднак шакіраваныя бунтарскім здарэннем у сваёй царкве. Прымяненне моў розных народаў у час першай Велікоднай літургіі ў царкве з'яўляецца традыцыяй. Такім чынам аб'яўляецца як найшырэйшаму кругу вернікаў пра Свята. У беластоцкіх цэрквах Евангелле чытаецца таксама на беларускай, грэчаскай, украінскай, славянскай ды рускай мовах.

**(гк)**

# Прарочы сон

— Ці вам сняцца некалі сны, якія нешта прарочаць? — спытала мяне Мар'я, якую я прыйшла наведаць. І не чакаючы майго адказу, мая субяседніца канстатавала: — А мне некалькі разоў сніліся такія сны. Асабліва адзін так засеў у маёй мамяці, што не забыла дасюль аніводнага фрагмента, аніводнага ўяўлення. А было гэта ў пачатку зімы сорак першага года. Палічыце, колькі гэта ўжо гадоў прайшло з тае пары!

Мар'я ўжо дзесяць гадоў не ўставала з пасцелі. Сталася тое, што часта здараецца старым людзям. Зімою 1995 года ўжо васьмідзесяцішасцігадовая Мар'я яшчэ спраўна вяла сваё хатняе гаспадарства, але здарылася няшчасце. Прыбірала сваю невялічкую кватэру перад Калядамі, упала і паламала косць у клубе. Свае сям'і ніколі не мела, але было ў яе нямала сваякоў. Аднак ад іх не чакала ніякае спагады. Маладыя некалі прыязджалі, каб бабуля аддала астатнія грошы, бо ім якраз не хапале, а старэйшыя спатрабавалі, каб апісала на іх сваю кватэру. Калі ўжо апісала, перасталі ёю займацца. Каляды правяла ў шпіталі. Шпіталь не надта клапаціўся ёю — вядома, у такім ужо ўзросце! І ляжачую Мар'ю прывезлі дадому.

— Сваякі, — кажа Мар'я, — прыйшлі, што лепшае пазабіралі і чакалі канца. А да мяне прыходзяць цяпер добрыя людзі і грамадская санітарка. Вось так і жыву. Набліжаецца мой падвойны юбілей. У пачатку снежня я радзілася, будзе мне ажно 96 гадоў! Божа ж мой, калі гэта прайшло? А другі юбілей, гэта дзесяць гадоў ад калецтва. А, дзякуй Богу, памяць і розум трымаюцца. Але ўжо хутка памру. А я ведаю, калі канец той будзе, бо ўжо ўсенька выпаўнілася, што было ў маіх снах.

... Сны тыя прысніліся мне ў незвычайных абставінах. Вядома, вайна, акупацыя, адна, другая, усенька тады было ненармальна. Я тады вярнулася ў свой маёнтак за Прыпяць, ну, у Сараконі. У саракавым годзе саветы вывозілі памешчыкаў. Я і мае браты паўцякалі. А бацькоў маіх і малодшую сястру вывезлі ў Казахстан. Але, калі прыйшлі немцы, то я думала, што пазволяць мне вярнуцца на сваю гаспадарку. Але яны хутка паклалі лапы на наш маёнтак. Мяне ўсё часцей выклікалі на розныя допыты ў іхную камендатуру. Пасля аднаго такога допыту я ўсю ноч не магла заснуць. Ледзь на світанні крыху прыснула. І ў тым сне бачу, што на падваконні стаіць фігура Хрыста, ну, такая гіпсавая. Гляджу на яе, а Хрыстос працягвае рукі да мяне і кажа: „Уцякай!" Гэтыя словы я пачула выразна. Гляджу на фігурку, а яна ўсё меншае, меншае, аж зусім знікла. Я прачнулася ў жаху. Ажно чую: хтось далікатна стукае ў акно. Быў гэта наш былы лакей Пеця. Кажа: „Пані, вы хутчэй уцякайце, бо сёння вас арыштуюць!" Я хутка сабралася (даўно ўжо ўсенька патрэбнае ў дарогу клала иначай побач сябе). Пеця кажа: „Знаёмы мой, спрыючы вам чалавек дапаможа пераправіцца вам за Прыпяць. Не пытайце, больш нічога не скажу!" Я паверыла не толькі Пецю, але перш за ўсё свайму сну — паверыла, што гэта па волі Высшай Сілы гэты ратунак.

Пераправа па замерзлай рацэ была страшная. Лёд трэскаўся, ламаўся, ільдзіны ўцякалі з-пад ног. Мая вопратка прамокла, я чула, як усенька на мне абмярзае. На бераг выцягнулі мяне незнаёмыя мужчыны, якія таксама ўцякалі ад немцаў. А на беразе страціла я прытомнасць...

Усё ж я вярнулася з „таго свету". Адплюшчыла вочы і ўсвядоміла, што ляжу ў цёплай пасцелі. Ціха і нікога не відаць. Глянула ўверх, пад столлю заўважыла паліцу ўздоўж сцяны, далей комін ад печы, а побач шырокія, пацямнелыя ад старасці дзверы. Вось чую, хтось увасходзіць у хату. Хацела я падаць голас, але ледзь захрыпела ўсяго. Да ложка набліжалася незнаёмая жанчына. Нахілілася нада мною, пагладзіла і кажа: „Як добра, што вы ўжо вярнаецеся з нябыту!"

Я добра ведала мясцовую мову, сабрала ўсе сілы і прамовіла: „Хто вы будзеце? Дзе я знаходжуся, я не ведаю, скажыце мне". Жанчына дакранулася рукою жа майго ілба, узяла мяне за руку і кажа: „О, пані, а мы так баяліся, каб вы не памерлі". Гляджу ёй у вочы і здаецца мне, што яны шчырыя і добрыя. Пытаю: „А чаму вы кажаце мне «пані», вы ж мяне не ведаеце?" — „Ведаю, вы з маёнтка." — „Хто мяне сюды прывёў?" — „Вас прывялі пад рукі нейкія мужчыны і сказалі, што пані з маёнтка хацела ўтапіцца, а яны яе адратавалі. Яшчэ сказалі, што калі пані памрэ, то каб ноччу ўкінуць у раку, а калі ачуняе... Ну, і далі літар самагонкі, каб вас нацерці, бо ж вы былі амаль замерзлі!"

Я маўчала і далей нічога не магла сказаць. Гаспадыня напаіла мяне цёплым малаком, расказала мне, як яна мяне, паўжывую, ратавала. „Я вас націрала не толькі спіртам, але і барсуковым тлушчам, абкладала кіслым малаком, каб панізіць гарачку, паіла зёлкамі. І вось вам Бог даў вярнуцца да жыцця". Я заснула ўжо аздараўляючым сном. І тады, у тую ноч, прысніўся мне сон, які даў мне прадвесце на ўсё маё, сумнае і цяжкае, жыццё.

У сне я апынулася ў полі, на жытнім палетку. А тое жыта не такога колеру, як заўсёды, жоўта-залацістага, але нейкае шэрае, сумнае. Я хачу выйсці дзесь на дарогу ці на мяжу, але той палетак вялікі-вялікі, не бачу нідзе канца. Бяру ў жменю каласы, а яны — пустыя. Няма ў іх зярнят. Мне сумна, мне ніяк не знайсці выхаду, і так прачнулася.

Становішча маё было нецікавае, я не ведала, што далей рабіць, куды падацца. Не адчувала ў сабе і ахвоты да жыцця, не мела надзеі, што нешта можа змяніцца. І так падумала: той сон такі сумны, пэўна, я памру. Вырашыла размовіцца з гаспадыняй. Праўда, пазнала я ўжо і гаспадара, невялікага але здаровага палешука гадоў пад сорак і іхнюю дачку. Да гаспадыні адчувала я давер і сімпатыю. Прыклікала яе і кажу: „У рукаве майго паліто ўшыты мяшэчак, там крыху золата і грошай. Вазьмеце сабе, бо мне ўсё тое ўжо непатрэбнае, я ўмру, але не кідайце мяне ў раку, а пахавайце па-хрысціянску, у зямлі".

— Пані, а чаму вы так гаворыце?! То ж вы ўсё лепшаеце!

Тады я расказала ёй свой сон. Мая добрая паляшучка ўзяла мяне за руку, памаўчала, а пасля кажа: „Не, вы не памрэце — гэты сон прадказвае вам доўгае, але ж невясёлае жыццё, ды ў адзіноце".

Праз два тыдні мае добрыя гаспадары вырыхтавалі мяне ў дарогу. Апранутая ў світку, у цёплай хустцы на галаве, у руках — кошык з хлебам, кусок сала і сушаны сыр. Гаспадар наладзіў сані і я з жалем развіталася са сваімі дабрадзеямі. Кажу ім: „Мар'я В. ніколі вас не забудзе". І не забыла. Хаця ніколі больш не бачыла. Да Пінска завёз мяне гаспадар, а адтуль дасталася я да Варшавы.

Прыехала перад Калядамі да свае кватэры ў Варшаве, дзе мой бацька пасяліў быў далёкую сваячку, каб даглядала хату. Дом той уцалеў і я ведала, што яна там яшчэ жыве. Калі я пазванвіла ў дзверы, сваячка адчыніла і востра спытала: „Czego?!" — „Гэта я, Мар'я, ці не пазнаеш?" Пазнала, а як жа, але незадаволена сказала: „Мне самой цяжка, а яшчэ ты тут з'явілася!" Вось бачыце — людзі і людзі! Тыя простыя сяляне, бедныя, але з багатым — залатым сэрцам, а тут сваячка, якая не раз дазнала ласку ад маіх бацькоў. Надоўга мы былі разам, хутка нас немцы выселілі адтуль. Дом той быў у вайну ўзарваны, нічога не засталося...

За дванаццаць гадоў нашага знаёмства многа пра сваё жыццё расказала мне пані Мар'я В. Праспявала мне многа думак і прыпевак з беларуска-украінскага парганічча. Любіла сваіх суседзяў-сялян і амаль да канца падтрымлівала з імі перапіску. Цешылася, што былому іхнаму лакею Пецю жывецца добра, што дачка колішняе пакаёўкі вывучылася на лекара, а панскі дом яе продкаў замянілі на шпіталь.

Яе асабістае жыццё было аднак такое, як у тым сне — цяжкае, працавітае і пустое. Патраціла ў вайну ўсіх блізкіх. Памерла пры чужых на 98 годзе жыцця.

**Алена АНІШЭЎСКАЯ**

# Слухаем, як ідзем у Еўропу

**Два гады таму ў Чахах-Забалотных наведаў я братоў Дзмітрыя і Міхала ЗАЛУСКІХ. Расказалі яны мне пра санацыю і нягоды ваеннага ліхалецця.**



*Злева: Дзмітрый і Міхал Залускія.*

— У школу пайшоў я ў чатырнаццацігадовым узросце, бо школу адкрылі толькі ў 1921 годзе, — прыпамінаў тады 90-гадовы Дзмітрый Залускі. — Закончыў я ўсяго два класы, бо завялікі быў далей хадзіць у школу. А вучыўся я толькі зімою, бо рэшту года трэба было памагаць бацькам на гаспадарцы.

У бежанства наша сям'я не паехала, бо так вырашыў бацька. З вёскі на агульны лік сарака дамоў у Расею не выехалі каля дзесяці сем'яў. Маці вельмі баялася заставацца і плакала. Але калі ў 1918 годзе бежанцы сталі вяртацца на радзіму, тады сталі пытаць бацьку адкуль ён ведаў, што не варта было ехаць. Пры немцах у час І сусветнай вайны, можна сказаць, было добра. Усім, хто застаўся на месцы, давалі хлеб. Сяляне працавалі ў маёнтку паўпанка Сідара Жукоўскага. Калі немцы ішлі на рускіх, то зямля гарэла, бо казакі прымянялі тактыку спаленай зямлі і падпальвалі вёскі. Праўда, нашы Чахі засталіся цэлымі, але згарэлі суседнія вёскі — Вулька-Выганоўская, Маскоўцы...

Было нас у сям'і пяць братоў і ўсе мы з бацькамі працавалі на гаспадарцы. У войска мяне не бралі. Ажаніўся я ў 1955 годзе і нарадзіліся ў нас дзве дачкі. Абедзьве атрымалі адукацыю. Адна працуе ў Бельску і прыязджае наведваць мяне. Другая жыве за Бугам і наведваецца вельмі рэдка. Аўдавеў я многа гадоў таму і жыву цяпер самотна. Трымаю яшчэ дзве каровы дзеля сваіх патрэб. У агародчыку каля хаты стаяць вуллі, але пчолы жывуць толькі ў адным, бо няма каму даглядаць за імі. Ногі ў мяне хворыя і падпірацца ўжо трэба дзвюма палкамі. Часта ўключаю радыёпрыёмнік і слухаю як гэта ідзем мы ў Еўропу. Насупраць жыве мой малодшы брат. Сустракаемся і абмяркоўваем розныя справы...

— Я больш адукаваны за брата, — сказаў тады 82-гадовы Міхал Залускі (памёр ён восенню 1997 г.) — У 1932 годзе закончыў я шэсць класаў у Круглым, а пры саветах, у войску, нават здаў экзамен у сярэднюю школу, але неўзабаве пачалася вайна. У наваколлі школы былі ў Маскоўцах і Вульцы, а настаўнічалі ў іх Фядуцік, Дудзік, Мушынскі. Паколькі дома былі старэйшыя браты, дык мне дазволена было хадзіць у школу ўвесь год. Хадзіў я ў школу ахвотна, бо для школьнікаў давалі харчы — муку, сала... Солтыс атрымоўваў іх у гміне і дзяліў між школьных дзяцей. Гэты правіянт дазваляў нам выжыць.

У савецкае войска прызвалі мяне ў сакавіку 1940 года. Служыў я ў 86 сапёрнай дывізіі ў Машчоне-Панскай і працаваў пры ўмацоўванні граніцы над Бугам, аж пад Драгічын, жалезабетоннымі бункерамі. Капалі мы катлаван памерамі 8 на 8 метраў і глыбокі таксама на 8 метраў і ў ім залівалі двухметровай таўшчыні сцены. У бункеры была студня. Бункер абслугоўвалі 6 салдат (2 назіральнікі, 2 пры гармаце і 2 адпачываючых). Правіянт у нас быў добры — сушаныя каўбаса і хлеб; рыбай нас не кармілі, як думаюць некаторыя.

Камандаваў намі генерал Цімафееў. У першы дзень вайны заяўляў ён, што „айчыну будзем бараніць да апошняй кроплі крыві". Мяне назначылі пільнаваць бункер з трыма тонамі дынаміту. Да такой службы бралі толькі тых, хто не курыў і не піў алкаголю. Мы разлічвалі, што пагонім немца далёка за Буг, але атрымалася інакш. Немцы адкрылі па нас такі агонь, што свету не было відаць. У нас быў толькі адзін самалёт, а нямецкія надляталі адзін за адным нізка і безупынна бамбардзіравалі нашы пазіцыі ды стралялі па нас. Апынуўшыся пад шквалам варожага агню, салдаты кідалі бункеры і ўцякалі. Я неяк дабраўся да найбліжэйшай вёскі, адкуль было толькі сорак кіламетраў да родных Чахоў.

Ажаніўся я ў 1952 годзе. Мая жонка, Марыя, родам з Дыдулёў. З 1980 года мы абое на пенсіі. Трымаем яшчэ сто авечак, якіх пасвіць мая жонка, бо я ўжо слабы на ногі і без палкі мне ўжо не абысціся.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота аўтара*

# Незневажальныя факты пра Брэст

Ірына Лаўроўская („Ніва” н-р 11) папракае мяне, што я Брэст лічу „такім правінцыяльным гарадком” і гэта зневажальна, бо гэта горад „самабытны і каштоўны”. Ёй мала, што я напісаў „[Брэст] у 1441 г. лічыўся адным з галоўных гарадоў ВКЛ. (...) З'езды і сеймы шляхты праводзіліся ў гэтым горадзе 8 разоў”. Адным словам, паводле аўтаркі, трэ пісаць пра Брэст толькі станоўча, прыкрываючы лістком смоквы ўсё непрыгляднае. Для гэтага, выходзіць, трэба абмежавацца сярэдневякоўем, што не было маёй мэтай у артыкуле „Мінулае і будучыня Брэста” („Ніва” н-р 2). Ніякага майго факту аўтарка не аспрэчыла.

І. Лаўроўская паўтарыла за мною, што ў 1550 годзе была заснавана кальвінская друкарня. Можна тутака дадаць, што яна выпусціла толькі 40 кніг на польскай і лацінскай мовах, а сярод іх чамусьці адну пра Скандэрбэга а фактычна Юрыя Кастрыёту (1405-68), нацыянальнага героя Албаніі.

Не спадабалася мне тое ў аўтаркі, што яна адхілілася ад тэмы пра сам Брэст да ягонага ваяводскага статусу, у якім магдэбургскія правы дасталі тады 9 гарадоў і мястэчак Брэстчыны: Высокае, Камянец, Пінск, Кобрын, Пружаны, Ружаны, Дывін, Лагішын і Давыд-Гарадок. Менавіта таму ў 1575 годзе разам назбіралі 24 364 злотых.

Аўтарка прапусціла бальшыню каталіцкіх манастыроў, бо акрамя бернардынак і аўгусцінаў былі ў Брэсце яшчэ дамініканцы, трынітарыі, езуіты, базыльяне і брыгіткі, не кажучы ўжо пра сінагогу.

Памылку можна знайсці і ў тэрміне заканчэння будовы Брэсцкай крэпасці: не ў 1842 г., а ў 1888 г. Несумненна гэта была катастрофа для садова-паркавых ансамблей, але для парадку прыпомнім, што праектаванне крэпасці закончылася ў 1830 годзе, а ўсё ж раней ў 1825 г. у Брэсце было толькі 11 000 жыхароў ды 543 жылых дамоў, у тым ліку 34 каменных. Небагата. Пра гэты многапакутны горад магчыма напісаць шматтомную энцыклапедыю, але на шчасце ёсць ілюстраваны аднатомны лексікон, які рэдагавала 12 чалавек, а артыкулы напісалі амаль 300 аўтараў: „Брест. Энциклопедический справочник” (Минск 1987). Тамака на старонцы 17 чытаем: „В 1657 шведы овладели брестским замком, опустошили и сожгли город. В 1660 город заняли русские войска под командованием Хованского, в 1661 он снова захвачен литовскими войсками. В результате Брест-Литовск был (!!!) весь до последнего строения разорён и сожжён”, „население осталась”, „очень малая горсточка”, „погибли все члены магистрата, сгорели цеховые документы и магистратские книги”. Значыцца, вынішчэнне бібліятэк і архіваў пачалося не ў XIX а ў XVII стагоддзі.

Шкада, што ніхто не сказаў аўтарцы праўду пра Беласточчыну (ваяводства). Тут на касцях яцвягаў жыве не толькі „этнічная Беларусь” а таксама „этнічная Польшча”, з тым, што каталікоў куды больш чым праваслаўных.

І. Лаўроўская хвалюючыся думае: „гэта мой Брэст”, а я гавару тое самае, бо я ў гэтым горадзе нарадзіўся. Аднак жа старая лацінская прымаўка кажа „Бясспрэчна Платон гэта мой друг, але ж лепшай маёй сяброўкай з'яўляецца Праўда”. Факты, факты перад усім!

Пра будучыню Брэста, які мае больш-менш столькі жыхароў як і Беласток, можна сказаць, што ў Беластоку ёсць гуманітарны універсітэт і медыцынская акадэмія, а над Бугам гэтага яшчэ няма.

Пані Ірына Лаўроўская магла б яшчэ нам напісаць пра тое, колькі сярэдніх брэсцкіх школ працуе на беларускай мове, колькі беларускамоўных кніг выдаецца ў яе горадзе і колькі такіх жа перыядычных выданняў выходзіць. І чаму беларусы так прападаюць за рускімі? Хто хоча чытаць пра старадаўнія цэрквы і манастыры Брэста, хай загляне ў кнігу Е. Д. Квитницкай („Монастыри Бреста XVII-XVIII вв. Архитектурное наследство” 1979, выпуск 27) і Л. С. Маеўскага („Город Брест-Литовск и его древние храмы (Исторический очерк)” Гродно 1894).

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Яшчэ раз пра мінулае...

У 14 нумары „Нівы” ад 4 красавіка г.г. друкаваўся допіс (СКМ) „Па мінулым сумуючы”. Шчыра дзякую аўтару за прызнанне маёй скромнай асобе звання „добрага агітатара”. Шкада толькі, што раней гэтага паважаны (СКМ) не прыкмеціў, а то меў бы я нагоду (хоць і жыву ў Польшчы) атрымаць нейкі медаль ад савецкіх камуністаў.

Піша аўтар, што я „з адзінокіх выпадкаў” раблю ўсеагульныя высновы. Мне цяжка сказаць, ці якраз у Варшаве на сценках пісалі „Komuno wróć!” А ў Беластоку неаднойчы прыходзілася такое бачыць. Ды і ў тэлебачанні такія лозунгі прыкмячаў у час шматлікіх дэманстрацый рабочых. Цяжка мне зразумець і намёк аўтара на цытату „Tak jak giną wilki, ginie wolność” да бяшчадскіх ваўкоў. Памойму, той хто пісаў гэта, не думаў якраз пра бяшчадскіх ваўкоў.

Не магу зразумець таксама слоў аўтара: „А свабоды ў нашай краіне такой вялікай як цяпер не было ад 1939 года, калі нас «вызвалілі» саветы”. Пра якую свабоду піша (СКМ)? Ці пра свабодны доступ да зброі мафіёзі, якія ў белы дзень забіваюць людзей у цэнтры горада, ці пра свабодны доступ да наркотыкаў падлеткаў у школе. Я за такую свабоду ніколі не падпішуся. Спадзяюся, што не толькі я так мяркую.

Наконт біюракратыі я не стану пярэчыць, што пры камуне не было гэтае гідры. Была і раней, хаця зараз гэтых паталагічных спраў намнога больш з'явілася. Я згодны ў адным з аўтарам, што „на Чаромсе сусвет клінам не зышоўся”. Але тое, што па мінулым сумую дзеля таго, „што маладосць прайшла — той час, калі было лепшае здароўе і ніякіх абавязкаў”, я не згодны. У маладосці я таксама працаваў, меў дамашнія і сямейныя абавязкі. А калі пры геркаўскіх часах прыходзілася браць крэдыт у банку, я яго не прапіў, пабудаваў сякі-такі дом, абзавёўся сям'ёю, выхаваў дзетак, даў ім адукацыю. Зараз працуюць і цешацца пашанай на рабоце. А маё здароўе, дзякуй Богу, яшчэ дазваляе выхоўваць унукаў.

**Уладзімір Сідарук**



# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, снілася мне, што я наводжу парадак у нейкім аднапавярховым будынку, ні то бараку-гатэлі, ні то школцы. Сцены калідораў выкладзены тут белымі пліткамі, вісяць вялізныя авальныя люстры. Я тую плітку і шкло люстраў глянцую анучкай і туалетнай паперай і яны пачынаюць аж зззяць.

**Зінка**

Прыснілася мне, Астроне, быццам я прасавала шлюбную сукенку. Яна была памытая, трэба было толькі яе адпрасаваць. Не ведаю, каму яна была прызначана. Мо я хацела яе прымерыць, надзець.

Пры гэтым былі дзеці, нейкія падлёткі з вельмі прыгожымі валасамі, заплеценымі ў косы і прычэсаныя ў цудоўныя прычоскі.

Што можа абазначаць гэты мой сон?

**Ганна**

Зінка! Фактычна, калі б табе прыснілася бруднае памяшканне, беспарадак, дык можна было б меркаваць, што будзе нейкая прыкрасць, слёзы. Але ты прыбірала тое памяшканне ні то ў бараку-гатэлі, ні то ў нейкай школцы, дзе брудаў зусім не было відаць. Сцены калідораў там, наадварот, былі выкладзены белымі пліткамі і віселі авальныя люстры. І, на першы погляд, можна было б падумаць, што ўсё ў цябе будзе ў парадку. Але не трэба спяшацца, лепш разгледзецца навокал і прадумаць, што сон можа табе прадвяшчаць, ад чаго ён цябе папярэджвае. А папярэджвае ён цябе, што ёсць нейкія людзі, не вельмі прыхільныя да цябе і няшчырыя. Бачыш, найгоршыя ў тваім сне былі тыя люстры, яны сведчаць аб фальшы і няшчырасці.

Ганна! Тое, што ты прасавала не звычайную сукенку, а шлюбную, можа гаварыць за тое, што будзе нейкая сварка. Магчыма, гэта будзе нейкі спор на старыя, перапетыя тэмы, або са старымі знаёмымі ці нават родзічамі (сукенка была ўжо не новая, а памытая). Магчыма, што з гэтых спораў вынікнуць для цябе самыя добрыя рэчы, а нават нейкі прыбытак. Дзяцей наогул сніць добра, а тыя дзеткі з твайго сну мелі вельмі прыгожыя валасы і цудоўныя прычоскі. Гэта, несумненна, прадвяшчае табе нейкія грошы.

**Астрон**



*Паляк, які пражывае ў Польшчы, 60 гадоў, вышэйшая адукацыя, матэрыяльна добра забяспечаны, пазнаёміцца з сумленнай адзінокай жанчынай у матрыманіяльных мэтах. Спадарыня можа жыць у мяне ў Польшчы або магу пераехаць жыць да Яе. Прашу пісаць мне па польску або прапісcю па руску. Лісты дасылаць у рэдакцыю з прыпіскай* ***Адзінокаму***.

# Шкодныя дэцыбелы

Французскі друк б'е трывогу, што кожны чацвёрты малады чалавек, які карыстаецца навушнікамі, пакутуе ад пашкоджання слыху. Маладыя французы, якія карыстаюцца плэерамі і навушнікамі, атрымоўваюць непасрэдна ў вуха 100-110 дэцыбелаў гуку. Лекары папярэджваюць, што без шкоды для здароўя музыку гучнасцю ў 100 дэцыбелаў можна слухаць 40 мінут, а ў 110 дэцыбелаў — толькі 5 мінут. Маладыя людзі прызнаюцца, што музыку праз навушнікі слухаюць нават па пяць гадзін у суткі.

**(лч)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Міраловіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalne — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Мал. Алега КАРПОВІЧА

**Фрашкі пра нашых**

## Раб, рабі, раб...

„За малыя грошы — малая работа..."
Прывыкні, народзе, што праца каштуе.
Знайсці тую працу — такая турбота!
Працуеш, дык скажуць: „Такому шанцуе!"

Не пытаюць болей пра „птушак блакітных",
Што жылі прывольна, голаду не знаўшы.
Цяпер найблакітны — той што прыкарытны.
А той, хто працуе — грашакі збіраўшы.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. рака на захадзе Казахстана, 8. мусульманства, 9. Абрам, беларускі скульптар, жывапісец і графік (1862—1942), 10. музыка, якая адлюстроўвае лад і рытмы павольных лірычных песень амерыканскіх неграў, 11. пустыня на поўдні Афрыкі, 13. зношаныя боты, 15. выдатны кітайскі філосаф (551—479 да н.э.), 16. драўляная пасудзіна з клёпак, 20. опера Пучыні, 22. Уільям, англійскі дзяржаўны дзеяч (1809—98), 23. Роберт, англійскі паэт (1774—1843), 27. Антанас, літоўскі паэт (1882—1957), 29. народная эпічная песня пра багатыроў і іх подзвігі, 30. набуханне сокамі пладоў і зерня, 31. горад на верхняй Волзе, 32. вялікая афрыканская пустыня, 33. бурштын, 34. вепр.

**Вертыкальна:** 1. Адрыян ван, галандскі жывапісец (1610—85), 2. жах і разгубленасць мноства людзей, 4. італьянскі горад між Бары і Адрыяй, 5. частка тэксту, 6. драўляны духавы музычны інструмент, 7. гарадок на паўночны ўсход ад Гомеля, 12. старажытнагрэчаская назва Дняпра, 14. гармон шчытападобнай залозы, 16. сіла, якая паднімае дым у комін, 17. умоўная мова злодзеяў, 18. вялікая драпежная неядавітая змяя, 19. Клімент, брытанскі палітык, прэм'ер-міністр пасля Чэрчыля (1883—1967), 21. Джузепе, італьянскі паэт (1888—1970), 24. узнёслае касцельнае ўслаўленне, 25. нямецкі горад на поўдні Саксоніі, 26. Васіль, беларускі пісьменнік (нар. у 1924 г.), 27. Кінг, амерыканскі рэжысёр (1894—1982), 28. распараджэнне на выкананне работы.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 11 нумара**

**Гарызантальна:** удод, камаш, уфолаг, шпак, Унеча, сінька, Экбатана, драга, аргумент, „Альцэста", тавот, лістапад, вужака, рыфма, хана, паліто, фортэ, рука.

**Вертыкальна:** каўнер, каўчэг, дыпламат, Дукса, дойна, гайка, акадэмік, індуктар, джаз, альт, нерв, штат, раснік, адыход, омметр, чумак, лапік, сахор.

Рашэнне: **Дзмітры Шатыловіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Юрасю Сціпанаву** з Віцебска.

# Загортка

Вясна заглянула ў мае вокны, пасвяжэла паветра, наступіў час, калі спеў птушак будзіць прыроду, быццам певень гаспадара. Задумаў і я, як радавы беларус, падацца туды, куды вецер павее і пакарыстацца дабрадзействам нашага клімату. Дакладна: рашыў я купіць расаду памідораў і пасадзіць раслінкі, якія, так як і мы, змоладу хаваючы сваю сутнасць, у сталасці вывалакаюць на свет свой чырвоны характар. А да таго ж раслінка гэтая ціхенькая: не бурчыць як сабака ці жонка і не кідаецца на чалавека з кіпцюрамі як кошка ці, зноў тая ж самая, жонка. Памідор да таго ж мае той самы радавод, што і наша нацыянальная бульба. І яшчэ адно: цэнтрам разводу памідорнай расады з'яўляецца, як добра з газет вядома, наш Гарадок; не трэба далёка ездзіць. Так я і ў Гарадок падаўся.

Хаджу я сабе па гарадоцкім рынычку і расады памідораў выглядаю. Рыначкавыя бізнесвумены і бізнесмены прапануюць мне сігарэты і брэндзі, быццам нейкаму амерыканскаму імперыялісту. А я ж тутэйшы, пра памідоры пытаю. А той наш сярэдні клас толькі вочы адводзіць, пальцамі ў скроні тыцкае і пасвіствае: ф'ю, ф'ю! Ажно нейкая баба, падпяразаная хусткай, пытае мяне:

— Вы хіба з Амерыкі зваліліся?

— Не, — адказваю, — я з Беластока.

— От, гарадскі панок! — ускліквула яна. — А хто ж у красавіку памідоры высаджвае, нават у горадзе? Вялікдзень неўзабаве, яйкі красіць трэба! Купляйце ў мяне, учора вечарам з седала выбрала...

— А адкуль вы самі будзеце? — пытаннем адтэрмінаваў я момант адказнага адказу.

— Са Страшава.

— Страшна там?

— Яшчэ як! Канец свету, гавораць, будзе.

— То дайце мне шэсць, але загарніце, каб па дарозе ў Беласток не пабіліся.

Выцягнула кабета нейкую кніжычку са сваёй сумкі і, вырываючы з яе лісточкі, беражна загарнула ў іх яйкі.

Вярнуўся я дадому, павымаў з паперак яйкі і вылажыў у халадзільнік. Гляну я яшчэ на тыя карткі, а на кожнай з іх нейкія чатыры радкі. Стаў чытаць, па-беларуску напісаны ўсе акуратненька; вось іх змест:

*Літва, родныя дзверы і чатыры сцяны*
*У чырвоных пейзажах акалелай вясны.*
*У недарэчны час пытальнікам абшыты*
*Тужу я па табе, бальзам мой хваравіты.*

*Літва, радзіма-родзіна, ты мне — як ікона,*
*Блакітнавокая пушчанская мадонна.*
*На твой ўспамін п'янею быццам туз віновы*
*І сею травень слоў — зярняты роднай мовы.*

*Літва, маё староне, ты цаца і я цаца,*
*Як з дзяцінствам, з табою не магу расстацца.*
*Без цябе, здаецца, я лішні невыносна*
*Усім у гэтым свеце — першым і апошнім.*

*Літва, маё Падляшша, тваю красу-сілу*
*Уловіць толькі той, хто маладым пакінуў*
*Блакіт тваіх нябёс, зялёнай пушчы сцены,*
*Жамчужыны вачэй, павальны крок туземак.*

*Літва, ты — Беласточчына, зямелька родная!*
*Краіны пад зе я не сустрэў ніводнае,*
*Дзе народ тутэйшы пастаянна з году ў год*
*Аслоў на воз саджае, а сам цягне ярмо.*

*Літва, мая айчына, цаніць я навучыўся*
*Цябе, калі па цэлым свеце звалачыўся.*
*Жа ж жа як я спазнаў Расію і Еўропу,*
*Сумотна майстраслоўлю элітам і халопам.*

Змест усіх гэтых чатырохрадкоўяў нагадваў мне нешта ўжо знаёмае. Ноч цэлую змагаўся я са сваёй прыстарэлай памяццю, аж у рэшце рэшт згануў — гэта ж інвакацыі „Пана Тадэвуша", толькі напісаныя, відаць, рознымі аўтарамі. І зараз яшчэ ўспомніў, што зусім нядаўна адзначаўся юбілей славутага Адама Міцкевіча, у тым ліку і беларусамі. Відаць была праяўлена нашымі дзеячамі новая ініцыятыва па перакладзе славутай аповесці на родную мову продкаў аўтара. Нідзе, аднак, ні ў „Тэрмапілах", ні ў „Часопісе" не згадвалася пра гэткі зачын. І падазраваю я, што недзе паўстаў чарговы новы — ціхі і сакрэтны, бы юнапамідорная чырвань — цэнтр нашай айчыннай культуры, які ўзяўся за арганічную працу ў народзе. Аўтары парастаў перакладу, хаця не падпісаныя — відаць не слава ім на сэрцы, толькі душы парывы — талковыя, што відаць хаця па тым, што іх натуга саматугам трапіла, так як марыў Міцкевіч, пад вясковыя стрэхі.

Карысна заглядаць у Гарадок. Паеду неўзабаве абавязкова па расаду, а пры нагодзе мо разведаю, якія гэта працавікі ўзяліся за арганічную працу.

**Адам Маньяк**

# Кароткі курс параноі

**Крылатае слова**

Калі Зеўс гневаецца, значыць Зеўс не мае рацыі (*антычная мудрасць*)

* * *

Божа, барані нас ад сяброў, бо з ворагамі самі дамо рады (*Антыгон III*).

* * *

Не рабі бліжняму свайму таго, што табе няміла (*Талмуд*).

* * *

Не засланяй сонца (*Дыяген*).

* * *

Сябры толькі пасля смерці становяцца сябрамі (*Максім Танк*).

* * *

Мастацтва — прыгожая хлусня (*А. Уайльд*).

* * *

Хто гаворыць праўду, не памрэ ад хваробы (*пагаворка Чынгісхана*).

* * *

Быць ці не быць (*першая думка гомасапіенса*).

* * *

Каб з людзьмі жыць, трэба піць (*мой сусед*).

* * *

Тэатр пачынаецца з вешалкі, паэзія з рытмікі, а нас бусел прынёс (я — С. М.).

**Сідар Макацёр**

P. S. Лёд рушыў, спадары засядацелі — цемрастоцкі валэнса выявіў першага „сумленнага беларуса"!